*Сёння ў некаторых раёнах Беларусі чакаецца да 32 градусаў спёкі.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 46 (4504)**

9 чэрвеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.





**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Ці хопіць духу зарэгістраваць Бабарыку?

За вылучэнне Віктара Бабарыкі кандыдатам на пасаду прэзідэнта паводле звестак на мінулую нядзелю было сабрана 167 тысяч подпісаў. То бок ужо нашмат болей, чым патрабуе закон. Такіх тэмпаў збору подпісаў за альтэрнатыўнага кандыдата Беларусь не ведала даўно.

Паказальна, што былы кіраўнік "Белгазпрамбанка", будучы навічком у палітыцы, заткнуў за пояс традыцыйную апазіцыю, у прыватнасці былых удзельнікаў праймерыз. Тыя сцвярджалі, што ва ўмовах пандэміі сабраць сто тысяч подпісаў нерэальна, і нават не ставілі перад сабой такой задачы. Кладучы руку на сэрца, не надта зразумела, у чым увогуле сэнс іх цяперашніх пікетаў.

А вось экс-банкір за лічаныя дні скалаціў моцную ініцыятыўную групу, узяў на ўзбраенне Сеціва, інфармацыйныя тэхналогіі. Феномен Бабарыкі паказвае, што грамадства стамілася ад нязменнай улады і мае моцны запыт на свежых асоб, прычым асоб з гісторыяй поспеху. Дасведчаны менеджар Бабарыка, пры тым што ён не выглядае бліскучым прамоўцам, раптам стаў імкліва набіраць папулярнасць, зрабіўся для многіх, найперш для прасунутай, адукаванай публікі, кандыдатам надзеі.

І жорсткія атакі афіцыйнай прапаганды (якой вырашыла падгуляць і экс-дэпутатка Ганна Канапацкая) на гэтага прэтэндэнта сведчаць, што наверсе яго пачалі ўспрымаць як рэальна моцную альтэрнатыўную фігуру. Таму яе вырашылі маляваць марыянеткай Масквы.

Не буду займацца канспіралогіяй. Зазначу толькі, што ў 1994 годзе тыпова прарасійскім кандыдатам быў Аляксандр Лукашэнка. Аднак логіка захавання ўлады прывяла яго, як бачым, у нішу абаронцы незалежнасці. Бабарыка ж цалкам слушна кажа, што дзеля гарантый незалежнасці варта найперш праз рэформы ўмацоўваць эканоміку, на што цяперашняя ўлада не здольная. Так што дэ-факта банкір-рэфарматар можа аказацца лепшым незалежнікам, чым цяперашні кіраўнік.

Хто-кольвек жа кажа, што Бабарыка, як і іншы выхадзец з істэблішменту Валерый Цапкала, – праекты тутэйшай адміністрацыі, скіраваныя на тое, каб ажывіць выбары. Але, гледзячы, як на былога банкіра ды колішняга дыпламата гневаецца дзейны кіраўнік, цяжка паверыць, што гэта спектакль.

У кожным разе гэтыя новыя палітычныя гульцы дэ-факта сталі выглядаць для ўлады небяспечнымі. Перад ёй, верагодна, паўстане пытанне рубам: ці рэгістраваць Бабарыку і Цапкалу кандыдатамі? І цалкам дапускаю, што наверсе могуць пайсці на грубае рашэнне: выбіць гэтых канкурэнтаў з абоймы, прычапіўшыся да якасці подпісаў. Сітуацыя ў эканоміцы хісткая, народ абудзіўся, градус незадавальнення цяперашняй дзяржаўнай палітыкай высокі. Тут каму-кольвек не да іміджу і не да вытанчанасці.

Зрэшты, каб не было масавага абурэння, у кіроўных вярхах могуць пайсці і на хітрэйшы варыянт: разам з Бабарыкам і Цапкалам зарэгістраваць жменю прэтэндэнтаў, якія нават не сабралі подпісаў. Такія хады ўлада, здаецца, ужо рабіла падчас мінулых кампаній.

Зараз разлік можа быць на тое, што, па-першае, экс-банкір і экс-дыпламат пачнуць разрываць адзін і той жа электарат, а па-другое, частку галасоў незадаволеных рэжымам адцягнуць на сябе палітычныя карлікі. У выніку альтэрнатыва будзе размыта, агітацыйная кампанія ператворыцца ў бедлам. А на фінішы ўсім канкурэнтам і псеўдаканкурэнтам дзейнага прэзідэнта выпішуць лічаныя працэнты. Пагрозу ж Плошчы ўлады пастараюцца прадухіліць рэпрэсіямі па ходзе кампаніі, што мы ўжо і бачым.

Так, у цяперашняга палітычнага рэжыму стае адміністрацыйнага рэсурсу і грубай моцы сілавых структур. Але ні адміністрацыйнымі, ні сілавымі метадамі нельга спыніць тыя працэсы, што пачаліся ў масавай свядомасці. Пра абуджэнне народа, прагу перамен сведчаць шалёная папулярнасць новых палітычных фігур, чэргі жадаючых падпісацца за іх.

Зараз найлепей было б, каб збудаваная першым прэзідэнтам сістэма паказала здольнасць да трансфармацыі. Але ў гэта не надта верыцца. У тым ліку і гледзячы на склад новага ўрада. Стаўка ж на сілавыя метады, здушэнне свабод прывядзе да таго, што ціск у беларускім палітычным катле будзе павышацца. Паводле маіх адчуванняў, краіну чакаюць драматычныя часы.

Прапаганда дэманізуе апанентаў афіцыйнага лідара, палохае майданам, развалам краіны. Але ж калі ўдумацца, то ўсе крытыкі сістэмы – ад вулічных завадатараў да рэспектабельных выхадцаў з істэблішменту – настойваюць на адным: сумленных празрыстых выбарах. Ніхто не заклікае да канфрантацыі дзеля канфрантацыі, нікому не патрэбна Плошча дзеля Плошчы. Ад улад патрабуецца элементарнае: устрымацца ад правакацый ды гвалту, не ставіць палітычным гульцам падножкі, забяспечыць рэальную свабоду слова і сходаў, стварыць роўныя магчымасці для агітацыі, паказаць бюлетэні пры падліку. Што не так?

Годзе страшыць беларусаў, трымаць іх за дурняў. Народ заслужыў сумленныя выбары. Ён сам разбярэцца, хто чаго варты і каму даверыць краіну.

SOS!

## З-за каранавіруса Беларусь згубіла 276 чалавек

*Такія лічбы агучыла ўчора Міністэрства аховы здароўя.*

У Беларусі на 8 чэрвеня папраявіліся і выпісаны 23.880 пацыентаў, у якіх раней быў пацверджаны дыягназ COVID-19. Зарэгістраваны 49.453 чалавекі са станоўчым тэстам на COVID-19. Праведзена 632.993 тэсты.

За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі на тэрыторыі краіны памерлі 276 пацыентаў з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй.

ВЫБАРЫ-2020

*У трыццаці гарадах Беларусі ў мінулыя выхадныя былі арганізаваны пікеты па зборы подпісаў у падтрымку вылучэнцаў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*



ЛИЧНЫЙ ОПЫТ

Леонид СУДАЛЕНКО:

## «Высокая температура не падала неделю...»

*Гомельский правозащитник рассказал, как переносит коронавирус. Он болеет уже больше двух недель.*



– Если бы не диагноз врачей, то даже не подозревал бы, что меня тоже настиг COVID-19! – *поделился Леонид*. – Это я сейчас понимаю, что не заболеть пневмонией, которую принесла коронавирусная инфекция, у меня не было никаких шансов. Супруга работает, младший сын учится в школе, 15 мая из солдатской казармы после дембеля вернулся сын, служивший на границе в самой опасной на то время с точки зрения распространения «короны» Витебской области. Кто сегодня может сказать, как в мой дом попала инфекция?

Жена, кстати, тоже заболела, сейчас в больнице лежит. Она слегла на три дня раньше меня и болезнь переносит тяжелее.

Последний раз температура у меня поднималась лет десять назад. В субботу 23 мая к обеду начала подниматься температура. К вечеру была уже около 39, утром и днем 37–37,5. Первые три дня сам себе назначил и принимал таблетки. Высокую температуру тоже сбивал таблетками. Не прошла! На четвертый день вызвал врача на дом. Врач выписала таблетки, которые я и до ее прихода принимал. С ее слов, тестирование на «корону» в городе даже платно пройти невозможно! Сказала, что в марте-апреле всех с температурой везли в стационар, а сегодня даже те, кто с легкой «короной», отлеживаются дома. На все мои вопросы о ситуации с «короной» в городе врач отправляла в Минздрав. На том и разошлись.

На пятый день болезни, когда еще не знал, что у меня коронавирусная инфекция, я сдал в своей поликлинике анализы и прошел флюорографию. Результаты отличные, но температура все равно держалась и не падала. При 37,7–38 испытывал сильный озноб, а при 39 и выше – просто горел и был как в бреду! Так прошло семь дней. При этом ни кашля, ни соплей у меня не было, и запахи все чувствовал.

В субботу 30 мая у меня получилось пройти компьютерную томографию легких. Результат – двусторонняя полисегментарная пневмония. Взяли кровь из вены, тест оказался положительным (отсутствие иммуноглобулинов М). Врачи назначили антибиотики, от которых тут же ушла температура и состояние нормализовалось. От экспериментального лечения противомалярийными препаратами я отказался – у них очень много побочных эффектов. Предложили домашний режим, на котором я и нахожусь до сегодняшнего дня, принимая лекарства и антибиотики. На вопрос, как узнать, выздоровел ли я, врач предложил сбегать на третий этаж и обратно. Мол, если не потеряешь сознание – значит, все нормально. Я сбегал сегодня на пятый этаж и обратно – отлично!

Кстати, никаких подписок и требований о самоизоляции мне никто не предлагал. Но я никуда из дома неделю не выходил.

Планирую еще раз на этой неделе сдать тесты, хотя у меня уже никаких внешних симптомов нет.

Сейчас к нам пришло тепло, а вместе с ним, надеюсь, уйдет и коронавирусная инфекция.

Берегите себя и своих близких и не болейте!

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

**У якім накірунку ісці Беларусі – вырашаць Вам разам з «Народнай Воляй»!**

Лёсавызначальныя дні наступілі для Беларусі – набірае разгон першы этап прэзідэнцкіх выбараў. "Народная Воля" незаангажавана адлюстроўвае падзеі кожнага дня. Мы нікому не служым. Мы служым ПРАЎДЗЕ, інфармацыю падаём з розных бакоў і з розных крыніц.

У якім накірунку ісці Беларусі – вырашаць Вам, шаноўныя сябры, разам з "Народнай Воляй". Канчаткова мы павінны вырашыць будучы лёс Беларусі 9 жніўня. Таму не заставайцеся без "Народнай Волі" ў другой палове 2020 года. Падпіска ідзе поўным ходам. Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку". Нагадваем: ёсць таксама магчымасць аформіць падпіску на «Народную Волю» і не выходзячы з дома. Для гэтага трэба на сайце **belpressa.by** запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату **праз сістэму Webpay** банкаўскай карткай ці **праз сістэму «Расчет» (АРІП)**. У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт **«Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка».** Для аплаты трэба ўвесці нумар рахунка, атрыманага на сайце **belpressa.by**. Зрабіце плацеж.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

САЛІДАРНАСЦЬ



*Напрыканцы мінулага тыдня Беларусь атрымала гуманітарную дапамогу ад суседняй Польшчы. Больш за 40 грузавікоў даставілі маскі, лякарствы, тэсты на каранавірус, апараты штучнай вентыляцыі лёгкіх…*

РАЗВІТАННЕ

## Не зарасце травой забыцця яго творчасць

Скончыў свой зямны шлях **Уладзімір Басалыга**, адзін з мастакоў-рамантыкаў другой паловы XX стагоддзя. Яму споўнілася 80 гадоў. Вядомы графік, чалавек цвёрдых нацыянальных перакананняў, сябра аб'яднання "Пагоня", ён заўсёды быў на лідарскіх пазіцыях: двойчы абіраўся старшынёй Беларускага саюза мастакоў, выкладаў, займаў пасаду дэкана Беларускай акадэміі мастацтваў. Быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.



Душа Уладзіміра Басалыгі назаўжды застанецца ў яго таленавітых графічных творах. Ён афармляў кнігі класікаў беларускай літаратуры: Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Петруся Броўкі, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча. Стварыў серыі літаграфій "Мова наша родная" і "Радзіма мая дарагая". А яго знакамітыя графічныя лісты з серыі "Помнікі дойлідства Беларусі", якія з'явіліся ў 1977 годзе, упэўнена, сталі для многіх беларусаў у савецкі час сапраўдным падручнікам па роднай гісторыі. У часы незалежнасці яны былі настолькі запатрабаваны, што друкаваліся на паштоўках, плакатах, у школьных падручніках. Кожны графічны ліст гэтай серыі прысвечаны замку або храму, якія насуперак усяму захаваліся на нашай зямлі. І гэта не тэхнічныя замалёўкі, а сапраўдныя рамантычныя творы. У іх ўкладзена столькі душы і захаплення: Каложа ў Гродне, царква Святога Арханёла Міхаіла ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна, царква Успення ў Верхнядзвінскім раёне... Усяго больш за трыццаць выяў. Яшчэ за два з паловай дзесяцігоддзі да таго, як быў адноўлены Мірскі замак, ён ва ўсёй красе паўстаў перад намі ў графіцы Басалыгі. І – якая моц, прыгажосць і натхненне! І ўсё гэта стаіць забытае-закінутае на нашай зямлі?

Думаю тады, напрыканцы 1970-х, менавіта такія думкі апаноўвалі многіх маладых людзей, чые веды па гісторыі Беларусі абмяжоўваліся падручнікам гісторыі КПБ. А Уладзімір Басалыга напісаў для нас іншы падручнік – і вярнуў нам старажытную Беларусь.

Многія працы мастака набыты музеямі нашай краіны: Нацыянальным мастацкім, Музеем сучаснага выяўленчага мастацтва, літаратурнымі музеямі Я.Купалы і Я.Коласа. Яны часта экспанаваліся па ўсім свеце. Упэўнена, што і ў будучыні творчасць мастака-графіка Уладзіміра Самойлавіча Басалыгі не зарасце травой забыцця.

**Алена МАЛОЧКА.**

СТОП-КАДР

## У Беларусі адзначылі Дзень памяці Прападобнай Еўфрасінні Полацкай, якая стала першай жанчынай нашых зямель, прылічанай да ліку святых



ПЕРЕЗВОН

*Как известно, 14 человек продолжают участие в первом туре состязаний за пост Президента Республики Беларусь. Но, похоже, не все настроены бороться до конца. Некоторых претендентов в последние дни не видно и не слышно. Зато трое – Александр Лукашенко, Виктор Бабарико и Валерий Цепкало – фактически уже вступили в горячую дискуссию. Хотя она пока носит виртуальный характер, но отдельные их публичные высказывания получили широкий резонанс, требуют глубокого осмысления и соответствующей оценки со стороны избирателей.*

## Александр ЛУКАШЕНКО:



– Мы создали свою страну, в которой могут жить наши дети. Сегодня момент тот, когда отстоять ее надо. Надо защитить. Вы видите, что нас на части разрывают. Единственная постсоветская страна, которая не видела горя.

И некоторым белорусам кажется, что это далеко Украину разрушили. Идет война. Где-то далеко Молдова, которую разделили напополам. Забыли, как в Литве воевали, с боем отстаивали независимость, суверенитет в свое время. Забыли, что сегодня полыхает еще Кавказ: армяне с азербайджанцами не могут договориться.

Забыли, что Грузия потеряла почти треть своей территории. Наконец, никто не знает, как мой друг Рахмон с пулеметом наперевес входил в столицу Таджикистана для того, чтобы навести порядок. Сколько погибло там людей, как с бородачами боролись!

Забыли, как бывший президент Каримов в Андижане подавил путч, расстреляв тысячи человек. Все осуждали его. Когда умер – на коленях стояли, рыдали, плакали. Мы этого не пережили, поэтому этого понимать не хотим – некоторые. Ну так мы напомним!

***

– …Нам досталась страна. Мы создали первое государство независимое, относительно пока независимое, суверенное. И мы эту страну никому не отдадим, чтобы над ней издевались, дестабилизировали каждый день, порвали на куски и кому-то отдали. Я хочу, чтобы это все услышали. И чтобы вы, те, кто еще как-то там шевелятся-шатаются, запомнили это: в этой стране моя жизнь и многих из вас.

## Виктор БАБАРИКО:



– Кто-то, не важно кто, присвоил себе право говорить от имени страны. Кто-то считает, что белорусы – его крепостные, которыми можно помыкать. Я хочу сказать, что белорусы – это нация с богатой историей… Белорусы сами определяли свою жизнь. И никто не имеет права присваивать нашу страну.

Кто-то нас пугает агрессией, кровопролитием и жертвами. Я могу точно сказать: белорусы – мирные люди. Они не допустят никакого кровопролития, от кого бы эта угроза ни исходила. И белорусы имеют силы, чтобы поставить на место любого человека или любую группу людей, объявляющую себя вправе стрелять, расстреливать и угрожать кровопролитием собственного народа.

***

– Нельзя стрелять в безоружных людей. Нельзя расстреливать собственный народ. И вот когда эти люди говорят: мы отдадим приказ, и кто-то будет стрелять, – ну, если уж ты такой смелый, возьми и сам попробуй это сделать. И не делай из людей преступников. Я абсолютно уверен, что ни один здравомыслящий человек ни в армии, ни в каких-то силовых структурах не возьмет на себя кровь своего народа.

## Валерий ЦЕПКАЛО:



– Это неправильно, когда один человек скажет что-то – и все бегут исполнять. Нельзя каждый день думать о том, какое настроение сегодня у президента. Это неправильно. Он не Бог, не царь, не герой, а такой же гражданин Беларуси, как и мы. Но он как менеджер, получив деньги в виде налогов, должен перед нами отчитаться за каждую потраченную копейку.

ВЫБАРЫ-2020

## Хто больш?

### *Колькі подпісаў сабралі тыя, хто прэтэндуе на прэзідэнцкую пасаду?*

*"Народная Воля" паглядзела, якія лічбы былі агучаны на ўчарашні дзень.*

За вылучэнне **Аляксандра Лукашэнкі** сабрана больш за мільён подпісаў. *"У асноўным – у працоўных калектывах і па месцы жыхарства"*, – сказаў кіраўнік ягонай ініцыятыўнай групы **Міхаіл Арда**.

Банкір **Віктар Бабарыка** заявіў, што сабраў 167.000 подпісаў. Пра гэта паведамляецца на ягоным сайце. Раней Віктар Бабарыка казаў, што ягоная мэта – мільён подпісаў.

Бізнесмен **Сяргей Чэрачэнь** паведаміў, што на ўчарашні дзень сабраў больш за 75.000 подпісаў за сваё вылучэнне. *"Наперадзе апошні тыдзень, і наша мэта – 115.000. Дзякуй тым, хто з намі!"*

Экс-кіраўнік Парка высокіх тэхналогій **Валерый Цапкала** на ўчарашні дзень меў ужо 119.000 подпісаў. Ён упэўнены, што будзе сабрана значна больш.

Як кажуць, хочаце – верце, хочаце – не.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ВЫБАРЫ-2020

## Аляксандр ТАБОЛІЧ: «Подпісы наогул не лічым»

*Адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду распавёў "Народнай Волі" пра тое, якую акцыю збіраецца правесці 16 чэрвеня.*

Нагадаем, што **Аляксандр Таболіч** – лідар музычнага гурта Znich. Пазіцыянуе сябе як кандыдат ад беларускай культуры і ў першую чаргу разлічвае на падтрымку з боку творчай інтэлігенцыі.

– У выхадныя праводзілі пікеты па зборы подпісаў у Гомелі, Петрыкаве, Магілёве і Бабруйску, – кажа Аляксандр. – Добра людзі ставяцца, нават невялікія чэргі збіраліся. Але хачу адзначыць, што ў мяне вельмі маленькая ініцыятыўная група, таму даводзіцца самому ездзіць па краіне.

Адкрыю невялікі сакрэт: больш за ўсё галасоў плануем назбіраць 16 чэрвеня – у Дзень майго нараджэння – у пікеце на Камароўскім рынку. Пікет пройдзе пад лозунгам "Падары подпіс Таболічу ў Дзень нараджэння!".

**– Колькі подпісаў ужо сабралі?**

– Шчыра кажучы, мы іх наогул не лічым. Нікому гэта не патрэбна, за подпісы нікому не плацім. Таму, калі закончыцца кампанія па зборы подпісаў, усё і падлічым. Колькі атрымаецца – усё наша.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПЕРАСЛЕД

## Вольга СЕВЯРЫНЕЦ: «Будзем чакаць…»

*Учора некаторыя актывісты былі асуджаны на адміністрацыйны арышт.*

8 чэрвеня ў Мінску прайшлі суды над затрыманымі пасля акцыі ля Камароўскага рынку ў мінулую нядзелю, а таксама над тымі, каго затрымалі прэвентыўна.

У выніку Алег Баброўскі, сябра ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай, атрымаў 20 сутак арышту. Вольга Мікалайчык, Рыгор Пагарцаў і Павел Севярынец – па 15 сутак…

*"За Паўлам "вісяць" яшчэ 30 сутак адміністрацыйнага арышту, таму агулам ён павінен адсядзець паўтара месяца*, – распавяла "Народнай Волі" **Вольга Севярынец**, жонка палітыка. – *Будзем чакаць. Мы з сынам Францішкам яго вельмі любім".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЕГИОН

## В Кричеве милиция «потопталась» на пикете в поддержку Тихановской

В Кричеве на пикетах в поддержку С.Тихановской в предыдущие дни не было больших очередей, как в других городах. Тем не менее люди подходили непрерывно. Приходили семьями, приводили детей. Было немало молодежи. Чиновники и руководители предприятий проходили мимо, внимательно наблюдая за происходящим.

Координатор пикета В.Кондратенко первым выявил под деревом «топтуна» с видеокамерой, который был в медицинской маске и старательно делал вид, что общается со своей молодой спутницей. По словам Виталия, он предлагал «оператору» назвать себя, надеть форму и снимать открыто. В ответ звучало: *«Не мешайте мне общаться с девушкой»*.

Позже «топтун» заинтересовался машиной, на которой инициативная группа прибыла в Кричев. Стал снимать машину. Координатор еще раз попросил незнакомца представиться и объяснить цель съемки автомобиля. Не добившись ответа, вызвал наряд милиции. В РОВД пообещали приехать, но «задержались». А в это время кричевляне, пришедшие поставить свои подписи за Тихановскую, идентифицировали «топтуна». Им оказался замначальника отдела охраны правопорядка и профилактики Кричевского РОВД майор милиции **Сергей Егоров**. Его спутницу опознать не удалось.

Не дождавшись милиции, В.Кондратенко повторно позвонил в дежурную часть РОВД. Пояснил, что некий гражданин исподтишка снимает пикет, что может негативно сказаться на сборе подписей, снимает его автомобиль, номера, что может быть истолковано как незаконный сбор информации о частной жизни. Дежурный предложил прибыть в милицию и написать заявление по факту незаконной съемки. Возможно, в милиции полагали, что Виталий от такой процедуры откажется. Но координатор инициативной группы прибыл в РОВД и написал заявление на «топтуна», указав его фамилию и должность. С.Егорова отозвали в отдел для консультаций. Вскоре он, правда, вновь прибыл на место, но уже находился гораздо дальше от пикета и не пытался вести съемку.

В этот же день на пикете произошел второй инцидент. Некий гражданин стал цепляться к бабушке лет 85, поставившей свою подпись за Тихановскую: мол, почему она поставила подпись, сколько ей за это заплатили? Виталий расценил действия гражданина как провокацию, повторно вызвал наряд милиции, который на этот раз прибыл на удивление оперативно. Мало того, к месту пикета прибыл и патруль в составе двух милиционеров. Гражданина увели, посадили в легковой автомобиль, куда-то увезли. Милиционеры предложили кому-нибудь из членов инициативной группы проехать в РОВД и написать заявление. Одна из женщин немедленно вызвалась поехать, а когда вернулась, то рассказала, что в милиции ей сообщили, что *«гражданин куда-то исчез»*. *«Не иначе как свой, милиционер или агент»*, – предположили члены инициативной группы и находившиеся рядом с пикетом кричевляне.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**
*г.Кричев.*

ПО ПОВОДУ

**Алесь СИВЫЙ**

## Поздно пить «Боржоми»…

*У брестских чиновников поздно наступило просветление.*

*«Брестский зональный центр гигиены и эпидемиологии информирует, что в настоящее время эпидемиологическая ситуация по инфекции COVID-19 (коронавирусной инфекции) в городе Бресте напряженная»*, – такое сообщение появилось на сайте Брестского горисполкома 3 июня 2020 года.

SOS! Отступать некуда!

В большом городе пик заболеваемости. Ежедневно с пневмонией госпитализируются более 100 человек.

Нельзя не процитировать это тревожное обращение местных эпидемиологов полностью: *«В настоящее время мест для госпитализации достаточно. Вместе с тем, по данным санитарно-эпидемиологической службы города, несмотря на информирование в средствах массовой информации, отношение части населения к профилактическим мерам остается недостаточно серьезное. Так, даже в магазинах и в общественном транспорте только часть людей используют маски.*

*Брестский горисполком и Брестский зональный центр гигиены и эпидемиологии настоятельно рекомендуют населению города Бреста ограничить посещение мест массового скопления людей, хождение в гости, не выезжать в другие регионы, свести к минимуму отклонения от жизненно необходимых маршрутов: на работу и обратно, в магазин и при необходимости в аптеку.*

*При посещении магазинов, торговых центров, аптек и иных мест скопления людей использовать маски, соблюдать социальное дистанцирование 1,5 метра друг от друга, пользоваться антисептиками, обязательно использовать маски в общественном транспорте»*.

Вот здесь впору воскликнуть: «Поздно пить «Боржоми»!» Вспомним, что происходило в Бресте накануне.

20 мая на городском стадионе состоялся матч 10-го тура национального первенства между местным «Динамо» и борисовским БАТЭ. Я не знаю, присутствовали или нет на этой игре главный врач Брестского зонального центра гигиены и эпидемиологии **Геннадий Радченко,** председатель Брестского горисполкома **Александр Рогачук** и председатель Брестского облисполкома **Анатолий Лис**, но в тот день был зафиксирован рекорд посещаемости матчей чемпионата. Не только в Бресте, но и вообще в этом сезоне.

При этом в Беларуси по состоянию на 20 мая официально были подтверждены 32.426 случаев заражения и 179 смертей на фоне коронавируса.

Странно, что накануне «топового» матча эти самые чиновники, зная, что на стадионе ожидается аншлаг, публично не обращались к людям с призывом остаться дома и посмотреть футбол по телевизору. Зато сейчас они уже говорят, что *«отношение части населения к профилактическим мерам недостаточно серьезное»*, *«мы настоятельно рекомендуем населению города Бреста ограничить посещение мест массового скопления людей»*.

За день-два до матча на сайте того же Брестского зонального центра гигиены и эпидемиологии брестчан информировали *«о проведении мониторинга за санитарным состоянием территорий г.Бреста в период проведения месячника по благоустройству»*, профилактике кишечных заболеваний и Международном дне памяти людей, умерших от СПИДа.

*«Смерть от СПИДа – ежедневная реальность современного общества»*, – утверждалось на сайте. О ежедневных смертях от коронавируса тихо промолчали. Наверное, чтобы не подвергать психику населения дополнительной нагрузке.

Но сейчас, видимо, петух уже серьезно клюнул в одно место, так что брестские чиновники во время *«напряженной ситуации»* в городе вдруг вспомнили о мерах профилактики и недостаточно сознательных гражданах, которые не хотят носить маски и посещают массовые мероприятия.

Но сейчас, когда, по официальной информации, в Бресте пик заболеваемости, как бы не вышло по известной поговорке: *«Поздно пить «Боржоми», когда почки отвалились»*.

КТО ЕСТЬ КТО

# Валентин Аголец пошел на повышение

*Раньше генерал-лейтенант в отставке, экс-министр внутренних дел Беларуси и экс-командующий внутренними войсками возглавлял Службу безопасности в пятизвездочном «Президент-Отеле». А с недавнего времени он является помощником генерального директора по вопросам безопасности.*

На бывшую должность Агольца пришел выходец из Министерства обороны – **Владимир Викторович Клюев.**

Доволен ли продвижением по карьерной лестнице Валентин Аголец? Генерал отвечает с юмором: *«Я еще не видел ни одну лошадь, которая тянула бы телегу и улыбалась!»*

Кстати, Валентин Аголец был одним из тех, кто в 1995 году принимал участие в скандальном выдворении депутатов Верховного Совета из Овального зала.

*«11 апреля 1995 года Верховный Совет приступил к обсуждению вопроса об инициированном А.Лукашенко референдуме*, – рассказывал в одном из своих интервью экс-глава Администрации президента **Леонид Синицын**. – *В бюллетене были сформулированы четыре вопроса. Решено было, что по первым трем вопросам итоги голосования будут носить обязательный характер, а по четвертому – консультативный. Осталось назначить лишь дату. Тогда встал Зенон Позняк и объявил, что в знак протеста против принятия решения о референдуме 19 депутатов фракций БНФ во главе с Позьняком и БСДГ во главе с Олегом Трусовым объявляют бессрочную голодовку в зале заседаний.*

*К президенту был вызван Валентин Аголец, командующий внутренними войсками Республики Беларусь, которому был дан приказ «освободить здание в течение тридцати минут»*.



**На фото: два генерала - Валентин Аголец и экс-министр внутренних дел Беларуси Анатолий Кулешов.**

Бывший первый заместитель председателя КГБ **Валерий Кез** говорил журналистам, что ему был отдан приказ выехать вместе с подразделением «Альфа» и подразделением внутренних войск под руководством Агольца и принять участие в выдворении депутатов.

Кстати, сам Аголец эту тему публично не комментировал.

В конце октября этого года Валентин Аголец отметит 70-летний юбилей. Не исключено, что через некоторое время после этой даты в «Президент-Отеле» появится новый помощник гендиректора.

*«Пока еще не выгнали!»* – с улыбкой говорит о своей работе Аголец.

Кстати, в «Президент-Отеле» отмечают, что сейчас Валентин Степанович в офисе временно не появляется – из-за коронавируса.

На вопрос «Как здоровье?» Валентин Аголец отвечает с оптимизмом: *«Держимся! Мы прошли более жесткие испытания. Помните, во времена Советского Союза в Астрахани холера была? Вот тогда было страшно… А коронавирус – переживем!»*

**Марина КОКТЫШ.**

АКТУАЛЬНА!

## Дзе ў Мінску можна зрабіць тэст на COVID-19?

*Многія краіны, якія адкрываюць свае межы для іншаземцаў, маюць намер патрабаваць дакумент, які пацвярджае адсутнасць у жадаючага ўехаць на іх тэрыторыю інфекцыі COVID-19.*

Як паведамляе Міністэрства аховы здароўя Беларусі, прайсці тэсціраванне і атрымаць адпаведны дакумент можна ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя (Мінск, вуліца Казінца, 50).

Тут на платнай аснове праводзіцца лабараторнае тэсціраванне на інфекцыю COVID-19 метадам полімеразнай ланцуговай рэакцыі (ПЛР) у рэжыме рэальнага часу.

Кошт ПЛР-даследавання для грамадзян Беларусь – 41,38 рубля, для нерэзідэнтаў – 56,63 рубля.

Вынік лабараторнага даследавання выдаецца на рускай і англійскай мовах.

КОРАТКА

## Карупцыянераў пашкадавалі

*Частка асуджаных па "справе медыкаў" трапіла пад амністыю.*

На волі апынуўся былы гендырэктар Гродзенскага РУП "Фармацыя" Андрэй Шчука – яго суд вызваліў ад неадбытай часткі пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі.

Як паведамляе *sputnik.by*, на падставе Закона аб амністыі Аляксандру Сталярову, Сяргею Зінчанку, Сяргею Лешчылоўскаму, Міхаілу Гаўрылаву, Вячаславу Гніцію, Наталлі Судаковай, Кацярыне Шнітко скарочаны тэрміны пазбаўлення волі на адзін год. Акрамя гэтага, на адзін год скарочаны тэрмін адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі часткова Дзмітрыю Кузняцову, Андрэю Патаповічу, Інзе Шалькевіч, Уладзіміру Самусенку, Віктару Балоціну, Віталю Мусіхіну, Леаніду Томчыну, Раману Альтшулеру.

Самы вялікі тэрмін па "справе медыкаў" – 7 гадоў пазбаўлення волі – атрымаў былы кіраўнік Цэнтра экспертыз і выпрабаванняў Аляксандр Сталяроў. Суд прызнаў яго вінаватым у атрыманні хабару паўторна.

Былы намеснік Сталярова Сяргей Зінчанка быў прыгавораны да 3 гадоў пазбаўлення волі, экс-начальніку ўпраўлення гэтага цэнтра Сяргею Лешчылоўскаму суд прызначыў 3 гады калоніі, Міхаілу Гаўрылаву, былому дырэктару РУП "Акадэмфарм", – 4 гады пазбаўлення волі. Экс-кіраўніка РУП "Белфармацыя" Вячаслава Гніція суд прыгаварыў да 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, былому намесніку гендырэктара віцебскай "Фармацыі" Кацярыне Шнітко прызначылі 5 гадоў.

## Золатавалютныя рэзервы зменшыліся

*Міжнародныя рэзервовыя актывы Беларусі на 1 чэрвеня, паводле звестак Нацыянальнага банка, склалі 7879,3 мільёна долараў.*

У маі золатавалютныя рэзервы зменшыліся на 3,7 мільёна (на 0,05%) пасля росту ў красавіку на 96,4 мільёна (на 1,2%). У маі Беларусь пагасіла абавязацельствы ў валюце на суму каля 220 мільёнаў долараў.

## Што адкажа Аляксей Мілер?

*Днямі Міністэрства энергетыкі Беларусі накіравала ліст на адрас старшыні праўлення кампаніі "Газпром" Аляксея Мілера, у якім пазначаны ключавыя моманты па пытаннях паставак газу ў 2020 годзе і методыцы цэнаўтварэння на газ з 1 студзеня 2021 года.*

"У лісце падкрэсліваецца, што рознагалосці па вызначэнні кошту пастаўляемага прыроднага газу з улікам яго каларыйнасці паўсталі паміж суб'ектамі гаспадарання – ДВА "Белпаліўгаз", ААТ "Нафтан" і ААТ "Газпром трансгаз Беларусь", – паведамляе прэс-служба Мінэнерга.

Беларускія чыноўнікі просяць, каб ААТ "Газпром трансгаз Беларусь" прадаставіў методыку вызначэння фактычнай сярэднямесячнай цеплаты згарання прыроднага газу з метралагічным пацвярджэннем яе прыдатнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі.

**Галіна РУТ.**

МИРОВАЯ ТЕМА

# Спасти жизнь на Земле сможет планетарная интеграция

В глобальном мире всё взаимосвязано. Вот и коронавирус проявляет себя как планетарная угроза, а не только для какой-то одной страны или одного региона. Пандемия лучше любых университетов учит, что *Земля* – наш общий *Дом*. Значит, в нем, в интересах всех, должны действовать общепланетарные *Правила*. Для наличия таких *Правил* предостаточно оснований.

**Во-первых**, человечество стало похоже на *Единый Планетарный Живой СверхОрганизм*, который создает не только новые большие возможности, но и новые опасности. Сбой в той или иной важной цепочке этого *СверхОрганизма* приводит к локальным, региональным и планетарным катаклизмам.

**Во-вторых**, *СверхОрганизм*, как любой живой организм, требует наличия адекватной ему системы управления, чтобы он мог функционировать гармонично. Подобная система управления в случае различных планетарных катаклизмов должна незамедлительно срабатывать, обеспечивая противостояние любым всеобщим угрозам.



В-третьих, чтобы выжить на планете Земля, нам необходимо глубоко понять *Космические, Планетарные и Цивилизационные вызовы, угрозы и риски*, а также истинные цели и этику развития земной цивилизации.

С учетом этого и должны быть разработаны общепланетарные *Правила общежития*. Причем, как показывает ситуация с COVID-19, создавать их надо немедля.

Однако человеческое сообщество по-прежнему продолжает придерживаться привычного «стиля» жизни. Государства жестко конкурируют, а при особо сложных отношениях и воюют друг с другом. В их действиях мы наблюдаем разобщенность, в том числе и в противостоянии пандемии. Слышим обвинительные перепалки, к примеру, между США и Китаем. А ведь в будущем в связи с климатическими изменениями могут пробудиться от многотысячелетней спячки иные неизвестные нам вирусы и болезни. Они также могут свалиться на нашу голову прямо из космоса. Причем эти угрозы являются лишь малой частью *Планетарных и Космических угроз* из их большого перечня, как-то: астероиды, солнечные, вулканические и другие. К ним люди совершенно не готовы

Самыми опасными оказались быстро нарастающие цивилизационные угрозы. Две мировые войны в XX веке мало чему научили правителей. Опасность военного Апокалипсиса возрастает. Неслучайно Альберт Эйнштейн, когда была создана атомная бомба, заявил: «*Человечество стало смертным!*» С проблемой смертности человеческого рода люди до этого никогда не сталкивались.

Фактически суммой всех угроз нам, земной цивилизации, предъявлен ультиматум из ее будущего. Сигналом об этом ультиматуме можно считать и пандемию COVID-19.

### Пандемия в одночасье загнала государства в «национальные квартиры». Почему?

Следствия пандемии не сводятся только к людским и экономическим потерям. Аналитических записок и докладов ученых о ее последствиях для принимающих судьбоносные решения правителей, мы думаем, предостаточно. Рекомендаций и советов простому люду – не меньше. Однако для будущего человеческой цивилизации не менее важно исследовать все «болевые точки», которые фиксирует эта пандемия. Например, как известно, природа глобализма заключается в том, что он размывает границы, объединяет капиталы, страны и континенты. Пандемия же, наоборот, в одночасье загнала государства в их «национальные квартиры». Почему?

Потому что де-факто уже существующий *Единый СверхОрганизм* цивилизации организационно (управленчески) еще не оформился. Его «мозг с нервной системой» (институты управления), «кровеносная система» в виде денежных потоков и другие органы функционируют неполноценно, а то и вовсе еще отсутствуют, особенно в части противодействия всеобщим планетарным угрозам. Это означает, что при возникновении подобных коронавирусу или еще более опасных угроз *Космического, Планетарного и Цивилизационного* характера государства вновь могут создавать глухую оборону своих «национальных квартир».

О разбалансированности *СверхОрганизма* свидетельствует и поиск виновных в распространении инфекции. На фоне пандемии и сопровождающей ее инфодемии (информационные фейки и пр.) международные институты, в том числе и ООН, проявили слабую эффективность, пустив процесс на самотек, на усмотрение национальных правительств. Поэтому *СверхОрганизм* лечится в своих разных местах по-разному, накапливая опыт в борьбе с вирусом, в том числе и за счет смертей тысяч людей, которых не должно было быть. О чем это говорит?

Это говорит об общепланетарном кризисе Иерархического недоразвития, что есть *Урок №1*, из которого пора делать выводы, касающиеся всей цивилизации.

Вопреки глобальным тенденциям пандемия демонстрирует, что спасение утопающих, как и прежде, в основном остается делом рук самих утопающих. Изоляция и самоизоляция, как и в эпоху доминирования национальных государств, пока остаются главными инструментами самоспасения.

Вот и возникает главный вопрос: как будем противостоять Космическим, Планетарным и Цивилизационным вызовам, угрозам и рискам, поджидающим человечество в будущем? В одиночку? Не получится! В связи с этим возникает вопрос к правителям: «Во сколько миллионов людских жизней вы оцениваете необходимую жертву, чтобы вы удовлетворили свою страсть к власти, насытили свою жажду накопительства и приступили наконец к назревшим планетарным переменам?» *(**Справка:** 26 олигархов владеют богатством, равным богатству половины населения Земли. 26 олигархов и 2208 миллиардеров совокупно владеют большим богатством, чем все люди планеты. Эта информация была озвучена на экономическом форуме в Давосе в 2019 году).*

### Пандемия является не только всеобщей бедой, но и сигналом о планетарном системном неблагополучии

Конечно, такой несправедливый мировой порядок сложился давно. Богатое меньшинство изначально являлось двигателем развития. Для своего господства оно использовало государство с его вооруженными силами и другими институтами насилия. На пути к богатству и власти была порождена «Вечная война», которая никогда не прекращалась. Непрерывная война и борьба государств в большинстве случаев сопровождались принудительной интеграцией. Добровольная интеграция в истории была редким исключением. Только во второй половине XX века добровольная интеграция начала проявлять себя более заметно, что естественно обусловлено не только самой природой глобализма, но и цивилизационно-культурной зрелостью европейских народов.

К сожалению, в настоящее время государства со своими внешними, по своей сути агрессивными целями с учетом современных технологий де-факто превращаются из фактора развития в фактор угрозы для цивилизации.

Агрессивность государств в эпоху оружия массового поражения, искусственного интеллекта, цифровизации вооружений, гибридных войн и колонизации космоса в военных целях еще больше усиливает нестабильность. Все это со всей очевидностью указывает, что земляне в начале третьего тысячелетия должны жить и действовать в принципиально иной *Планетарной Системе* с более гуманными целями и этикой. В противном случае шанс цивилизации погибнуть окажется выше, чем выжить. Все это требует от человечества Новой планетарной политики.

Таким образом, пандемия является не только всеобщей бедой, но и сигналом о *Планетарном Системном* неблагополучии, о системных дефектах огромной разрушительной силы, способных уничтожить цивилизацию.

### Добровольная интеграция – требование XXI века

Человечеству, чтобы выжить, необходимо на добровольной основе интегрироваться и выстроить гармонично устроенную, полноценную гиперкомплексную систему планетарного управления. Единственно правильный путь в будущее – это локальная, региональная, континентальная и межконтинентальная интеграции, ведущая к планетарной интеграции. Все иное, как-то: национализм, право наций на самоопределение, или на суверенное, независимое государство, или другие этнические инициативы – также могут быть полезны для развития наций, народов и этносов, но только если они не противоречат планетарной интеграции. От планетарной интеграции ничего не потеряет ни один малый этнос. Иначе интеграция окажется просто нежизнеспособной.

Таковы условия XXI века.

Первостепенным вопросом планетарной интеграции, безусловно, является вопрос безопасности. С учетом кровавой истории у государств в процессе их планетарной интеграции вооруженные и полицейские силы надо отнимать под ноль. На их основе надо создавать Международные вооруженные и полицейские силы. В итоге планетарной интеграции государства, лишенные военных инструментов, смогут выстроить *«Вечный мир»* вместо *«Вечной войны»*. Международные полицейские силы, естественно, будут иметь двойное подчинение: общепланетарное и местное.

### О некоторых концептуальных идеях будущего земной цивилизации

Как могут выглядеть на практике такие крупные перемены? Сразу оговоримся: мы излагаем не некий план, тем более не конкретный расчет, а касаемся, и то в первом приближении, лишь некоторых концептуальных идей будущего земной цивилизации (причем далеко не новых, если почитать, к примеру, хотя бы Библию). Конечно, эти идеи не являются простыми для исполнения. Но ничего не предлагать и не делать еще хуже, поскольку губительно для будущего землян. И в этой связи мы имеем право порассуждать.

Начнем с главных ныне «гарантов» мировой безопасности: США, стран Западной Европы, России и Китая. Допустим, что их первые лица прибудут в Москву. Это может случиться и потому, что Кремль, допустим, выдвинет исключительно важную и необычно интересную инициативу по *Новой Архитектуре Международной Безопасности*. Народы услышат предложение о прекращении *«Вечной войны»* и установлении *«Вечного Мира»*, потому что она, Россия, ответственна за цивилизацию, равно как и другие участники столь необходимой международной конференции по глобальной Безопасности. Пришло время исполнить пророческое библейское предсказание «… и перекуют они мечи свои на орала и копья свои на серпы; не поднимет народ на народ меча и не будет более учиться воевать…». Мы вправе ожидать таких слов от каждого участника вероятной конференции. Если же они примут и соответствующие решения, тогда весь мир будет рукоплескать началу долгожданных перемен.

Конечно, Международные вооруженные и полицейские силы будут созданы не завтра. Но важно начать это делать. Очевидно, что на инициаторов ляжет ответственность первопроходцев. По нашему пониманию, это будут США, Канада, Великобритания, страны Европейского Союза и НАТО, Россия и, весьма желательно, Китай. На определенном этапе развития указанной инициативы логично присоединение к ним иных стран бывшего СССР, в том числе Беларуси, Украины и Грузии, а также других государств ОДКБ. В какой мере при этом будет актуальна инициатива Беларуси о «Хельсинки-2», нам не известно.

Будь так, как сказано, это принесет огромный эффект для инициаторов, в том числе и в сфере социально-экономических перемен на севере планеты. На этой территории будет гарантирован мир, а сама территория со временем станет истинно свободной и привлекательной для любой позитивной человеческой деятельности и перемещения. Это будет истинно «интеграция интеграций». *Собственно говоря, мы рассуждаем о создании своего рода* **Объединенных Северных Американо-Евро-Азиатских Штатов** *по типу* **конфедерации** *с жестко централизованными* вооруженными и полицейскими силами и со значительно более мягким объединением в остальных сферах.

Это планетарное «начало» является первичным и необходимым. Оно заложит основу для всеобщего Единения и создаст условия для разработки общих *Правил земного общежития* и мер противодействия *Космическим, Планетарным и Цивилизационным вызовам, угрозам и рискам.*

Безусловно, для полномасштабных планетарных перемен потребуется распространение подобной Евразийско-Атлантической инициативы на другие государства, из которых первостепенное значение имеют государства из так называемого ядерного клуба, особенно Индия. Впрочем, надо должным образом оценивать роль каждой страны в этом процессе, как бы малы они ни были: допустим, Беларусь или Израиль.

Конечно, все аспекты полномасштабной Планетарной интеграции не могут вместиться в объем одной статьи. В завершение лишь обозначим некоторые возможные шаги к планетарной интеграции. Ее прологом, как отмечалось, может стать Конфедерация *Объединенных Северных Американо-Евро-Азиатских Штатов. Начало же Северной Конфедерации может положить Евразийская интеграция.*

### В разгар пандемии – о «единой Европе»

Начнем с «ближнего круга». Например, если российско-белорусская интеграция не вредит национальным интересам белорусов и россиян и не направлена против кого-либо в мире, а также служит укреплению национальной и региональной безопасности, то она, безусловно, будет способствовать планетарной интеграции. То же можно сказать и об интеграции в рамках ЕАЭС.

В контексте наших рассуждений, естественно, важна инициатива о едином экономическом пространстве от Лиссабона до Владивостока, о чем не раз высказывались и В.Путин, и А.Лукашенко. Понятно, не будем сейчас анализировать их аргументацию.

Важна также идея, звучащая в европейских столицах, о «большой Евразии» от Атлантики до Владивостока. Надо отметить, что призрак объединительной идеи давно бродит по Европе. Во Франции об этом говорит президент Макрон, в Германии – Мартин Шульц, в Италии – Берлускони и др. В недавнем прошлом об этом рассуждали Шарль де Голль, Валери Жискар д'Эстен, Альберт Эйнштейн, братья Томас и Генрих Манны (Германия), Зигмунд Фрейд (Австрия) и др.

Все это свидетельствует о том, что Европа находится не только в раздумье о будущем Мира, но и на перепутье. Либо ей вместе с Россией формировать единое пространство от Лиссабона до Владивостока («интеграция интеграций»), не в противоречии с США и другими странами, и на этом пути вернуть свое былое цивилизационное лидерство, утраченное в ходе развязанных ею в прошлом столетии двух мировых войн. Либо ее удел созерцать «разъединение мира» на фоне распада основ стратегической стабильности, что грозит перерасти в новую большую войну, эпицентром которой снова может стать Европа.

Именно в разгар пандемии мы рассуждаем о «единой Европе», поскольку вирусы приходят и уходят, а *Единый СверхОрганизм* человеческой цивилизации необходимо совершенствовать, чтобы в будущем успешно противостоять любым всеобщим Угрозам.

### «Бог объединяет, а сатана разъединяет»

Сильная сторона «интеграции интеграций»: объединение, а не разъединение, сближение, а не раздор. Продвигать идею «интеграции интеграций», конечно, следует всем миром.

**Для координации такой работы на первом этапе было бы целесообразным создать общественный Международный организационный комитет «За общий Европейский Дом» (или «За единую Европу от Лиссабона до Владивостока»).** Представляется, что сторонники «интеграции интеграций» из Европейского Союза, России, Беларуси, Украины, Грузии и др. могли бы включиться в эту инициативу, что стало бы первым шагом в формировании Евразийской, а впоследствии Евразийско-Атлантической и Планетарной интеграции. Такая инициатива предполагает долгосрочный характер чрезвычайно актуальной деятельности.

### Беда многому учит

Думается, что поскольку пандемия COVID-19 проявляет все болевые точки цивилизации, то человечество может выйти из этой ситуации более подготовленным к противостоянию всеобщим угрозам. Беда многому учит. Это создает более благоприятный фон для восприятия наших рассуждений о планетарной интеграции. Пусть же некоторые из них, в чем мы отдаем себе отчет, сильно опережают время.

**Иван АНТАШКЕВИЧ,**
**Анатолий ЛЕВКОВИЧ,**
**кандидат философских наук.**

ГУЧНАЯ ТЭМА

# «Зверху» зрабілі ўсё, каб сапраўдных пошукаў не было»



*Былы міліцыянт расказаў, як шукалі Захаранку, Ганчара і Красоўскага. 20 гадоў таму Леанід Грышанкоў кіраваў вышукам зніклых палітыкаў. Распыталі, як гэта было.*



svaboda.org (RFE/RL)

*«Хаджу пяць гадоў па кабінетах, патрабую, каб справы зніклых расследавалі як мае быць, сам прапаную мяне дапытаць, а яны то пагражаюць, то кідаюць у кутузку».* Гэтак пачынае сваё апавяданне Леанід Грышанкоў, адстаўны маёр міліцыі.

У нядзелю Леанід Мікалаевіч прыйшоў да Камароўскага рынку, дзе збіралі подпісы за Святлану Ціханоўскую, і не стрымаўся – выказаўся ў мікрафон. Сярод іншага сказаў, што на пачатку 2000-х гадоў па службе займаўся пошукамі зніклых апазіцыйных палітыкаў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Са слоў Леаніда Грышанкова, сапраўдныя пошукі наладзіць так і не ўдалося.

Ва ўспамінах Леанід вяртаецца ў май 1999 года, калі ён служыў начальнікам аддзела крымінальнага вышуку Партызанскага раённага ўпраўлення міліцыі. Якраз стала вядома пра знікненне былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. Пра гэта гаварылі ўсе калегі, а самыя блізкія сябры не выключалі версіі, што экс-міністра не проста выкралі, а ўжо і забілі як палітычнага апанента ўлады.

Пра лёс Захаранкі Леанід Грышанкоў перажываў асабліва, бо знаў таго асабіста яшчэ па службе ў гомельскай міліцыі, дзе і сам пачынаў служыць.

*«Пра выкраданні людзей мы ўжо ведалі, але тое тычылася крымінальнікаў, а тут апазіцыянер, палітык – не хацелася верыць, што і яго... І паступова сумненняў станавілася ўсё меней. Ды якія сумненні? У 1996 годзе падчас рэферэндуму нас усіх, у тым ліку супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, задзейнічалі ў ачапленні Дома ўрада, баяліся, што людзі пачнуць абурацца. Трымалі, як бараноў, нічога не тлумачылі. Мне ж асабіста ўжо было зразумела, куды мы ідзём»,* – згадвае Леанід Грышанкоў.

Пошукамі зніклых палітыкаў адразу давялося займацца Грышанкову і ягоным падначаленым. Але вельмі хутка яны зразумелі, што справа не мае перспектыў.

*«Не блытайце, гэта не крымінальная справа, а вышуковая, у яе свае асаблівасці,* – тлумачыць былы міліцыянт. – *Наш абавязак – рабіць запыты, апытваць імаверных сведак, правяраць людзей, збіраць і аналізаваць інфармацыю з розных крыніц, у тым ліку аператыўных. Працуем, працуем і што бачым? Знікненні пэўныя, ёсць нават сведкі злачынства, ёсць чырвоная фарба ад аўтамабіля на дрэве каля лазні, дзе выкралі Ганчара і Красоўскага, ёсць іншыя сляды. Але куды потым падзеліся выкрадальнікі і іх ахвяры? Ніякіх зачэпак няма. У тыя гады на кожным выездзе з Мінска стаялі пасты ДАІ, у горадзе поўна дзяжурных аўтамабіляў. Але збіраем рапарты – ніхто нічога не бачыў».*

*«Памятаю, як да мяне прыходзіла жонка Віктара Ганчара,* – згадвае Грышанкоў. – *Пыталася, вельмі прасіла зрабіць немагчымае. А што было ёй адказаць? Што робім усё, але рукі звязаны?»*

Грышанкоў узгадвае чырвоны BMW тагачаснага камандзіра СОБРа Дзмітрыя Паўлічэнкі, пра існаванне якога тады нават не ведаў. Міліцыянты не сумняваліся ў датычнасці гэтага аўтамабіля да выкраданняў, спрабавалі адсачыць яго перасоўванні па горадзе, як і перасоўванні джыпа «Гранд Чэрокі» Анатоля Красоўскага. Нічога вызначыць не ўдалося.

*«Дзясяткі рапартаў – і ўсе пустыя. Выходзім на нейкіх людзей, умоўна кажучы, Пятровых-Сідаравых – але правяраем іх па базе, а такіх людзей не існуе! Карацей, мы даволі хутка зрабілі выснову, што хтосьці вельмі прафесійна гэта ўсё арганізаваў і падчысціў, таму і няма за што ўчапіцца. Пайшоў да намесніка начальніка крымінальнага вышуку Мінска Сяргея Шарыпы, паставіў пытанне, што трэба як мага хутчэй заводзіць крымінальную справу, бо нашымі сіламі не абысціся. І што? Адмовілі. «Шукай, як шукаеш, а ў іншае не сунься. Калі трэба будзе, без цябе разбяруцца»,* – згадвае Леанід Грышанкоў нарады з начальствам.

Паводле ўспамінаў былога міліцыянта, восенню 1999 года да пошукавай справы Ганчара і Красоўскага далучылі і пошукавую справу Захаранкі, але вынік быў той самы – *«куча рапартаў і нічога пэўнага».*

## Хто распаўсюджваў чуткі пра «Захаранку ў Нямеччыне»?

Паводле слоў Леаніда Грышанкова, прыкладна ў канцы 1999-га – на пачатку 2000 года адносна Юрыя Захаранкі пачалі актыўна цыркуляваць чуткі, што яго нібыта бачылі ў Нямеччыне. Прычым пра гэта ўпэўнена казалі і некаторыя міліцыянты. Грышанкоў з калегамі, хоць не бачылі падстаў гэтаму верыць, усё ж спрабавалі разабрацца.

*«Мы нават зрабілі пэўныя дзеянні. І пераканаліся, што гэта хлусня, што не было ніякіх рэальных падстаў нават меркаваць, што Захаранка пасля знікнення ў маі 1999 года ў Мінску мог аказацца ў Нямеччыне. Стала зразумела, што гэты ўкід таксама быў часткай спецаперацыі супраць Юрыя Захаранкі»,* – лічыць Леанід Грышанкоў.

## «Нас нават не інфармавалі пра рапарты Алкаева і Лапаціка»

Улетку 2000-га знік аператар ГРТ Зміцер Завадскі, і паступова, кажа Леанід Грышанкоў, справы набылі новы імпульс. Але пра некаторыя зрухі следства Леанід даведаўся зусім не ад начальства, якое працягвала рабіць выгляд, што курыруе справы зніклых.

*«Мы займаліся сваім вышукам, збіралі паперкі, але нас па-ранейшаму не інфармавалі, што новага. Хоць падзеі былі. Справу вяла пракуратура, казалі пра следчую Святлану Байкову, вельмі ўпартую, да нас даходзіла, што генпракурор Алег Бажэлка і старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч настойваюць на расследаванні.*

*Пазней стала вядома пра рапарты палкоўніка Алкаева і генерала Лапаціка, пайшлі чуткі пра "расстрэльны пісталет", пра Дзмітрыя Паўлічэнку і ўдзел у выдачы гэтага пісталета міністра Сівакова. Дайшло нават да арышту Паўлічэнкі! Падумаў: цяпер давядуць да канца. Але, як памятаеце, быў загад Лукашэнкі вызваліць Паўлічэнку з ізалятара КДБ, потым з пасад знялі Бажэлку з Мацкевічам, і справу канчаткова пахавалі»,* – кажа Леанід Грышанкоў.

Паводле слоў былога міліцыянта, у выніку для сябе ён канчаткова вырашыў, што гэта справа спецслужбаў і яе расследаванне адмыслова «топяць» на самым версе. Тады ён проста напісаў рапарт аб пераводзе на іншае месца працы – у Мінскую абласную міліцыю.

З міліцыі маёр Грышанкоў звольніўся ў 2002 годзе па выслузе гадоў з пасады старшага оперупаўнаважанага па асабліва важных справах. Але пра лёс зніклых палітыкаў, асабліва земляка Юрыя Захаранкі, не забыўся.

*«Мне дагэтуль не дае спакою. Як можна? Выкрасці былога міністра ўнутраных спраў – і ўсе забыліся, нібыта нічога не было? Куды толькі я ні звяртаўся са скаргамі і лістамі – у пракуратуру, Следчы камітэт, але ж не рэагуюць. Больш за тое – пачалі пагражаць»,* – кажа былы міліцыянт.

## «Будзеш працягваць – пасадзім»

Леанід Грышанкоў расказвае, што першы раз пагрозы на свой адрас ён пачуў ад адказнага супрацоўніка праваахоўнай структуры ў 2018 годзе. Летась пагрозы прагучалі ад супрацоўніка спецслужбы, які адмыслова наведаў ягонага сына. *«Перадайце бацьку: калі будзе гэтак далей – пасадзім»,* – цытуе сына Леанід Мікалаевіч.

Грышанкоў вырашыў звярнуцца да самога Аляксандра Лукашэнкі. Шмат разоў, паводле слоў былога міліцыянта, ён дасылаў скаргі і лісты з напамінам пра справы зніклых на імя кіраўніка дзяржавы, але безвынікова, і ў выніку вырашыў нагадаць пра сябе іншым чынам – паехаць да рэзідэнцыі Лукашэнкі ў Астрашыцкім Гарадку. Апошняя такая паездка скончылася для яго затрыманнем.

Паводле слоў Грышанкова, ён паводзіў сябе ветліва і прыстойна, усяго толькі папрасіў ахоўнікаў перадаць кіраўніку дзяржавы, што народ Беларусі памятае пра Юрыя Захаранку ды іншых зніклых і просіць давесці расследаванне спраў да канца.

*«Прыехалі ажно тры машыны ДАІ, мяне забралі і павезлі ў Бараўлянскую міліцыю. А там сказалі, што на рухавіку майго аўтамабіля нібыта перабіты нумары, ім трэба агледзець рухавік. Я адмовіўся адчыняць капот. У выніку тры дні прасядзеў у іхняй кутузцы, адкуль павезлі ў Мінскі раённы суд і далі тры дні арышту за непадпарадкаванне».*

Леанід Грышанкоў дагэтуль абураны і цяпер не абмінае месцы, дзе збіраюць подпісы за прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта.

*«Трэба, каб у Беларусі былі вольныя выбары, незалежныя ад улады суды і каб людзі маглі вольна выказваць свае думкі. А такім людзям, як Юрый Захаранка, павінны стаяць помнікі, і я перакананы, што калісьці гэтак і будзе»,* – кажа былы міліцыянт.

## Алег ВОЛЧАК: «20 чалавек гэтым займаліся, а выніку нуль»

Былы следчы пракуратуры, праваабаронца Алег Волчак з 1999 года вядзе грамадскае расследаванне спраў аб выкраданні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Змітра Завадскага.

*«Памятаю добра, як нібыта шукалі Юрыя Захаранку. Як доўга адмаўляліся завесці крымінальную справу, як адмаўляліся даваць аб'яву па тэлевізары і нават не друкавалі ягоных партрэтаў – што знік чалавек. Калі зніклі Ганчар з Красоўскім, усё паўтарылася. Здаецца, крымінальную справу завялі хутчэй, але выніку ўсё роўна не было. Можа, чалавек дваццаць гэтым займаліся, але – нуль выніку. І, канечне, зразумела чаму. Бо як па мне, дык праўда ўладзе была не проста не патрэбная, а небяспечная»,* – кажа праваабаронца.

19 сакавіка Алег Волчак як прадстаўнік сям'і Юрыя Захаранкі атрымаў адказ са Следчага камітэта за подпісам начальніка аддзела СК Вараўкі аб чарговым прыпыненні папярэдняга расследавання справы Юрыя Захаранкі.

*«Згодна з часткай 2 артыкула 247 КПК, органамі крымінальнага пераследу ў далейшым як непасрэдна, гэтак і праз органы дазнання будуць рабіцца захады для вызначэння вінаватай асобы. У выпадку вызначэння асобы следства будзе неадкладна адноўлена, пра што вас праінфармуюць дадаткова»,* – напісана ў лісце са Следчага камітэта. Раней гэтаксама былі прыпынены справы Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Змітра Завадскага.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ.**

*(Радыё Свабода.)*

### Што важна ведаць пра знікненне беларускіх палітыкаў

7 мая 1999 года быў выкрадзены і імаверна забіты былы міністр унутраных спраў Беларусі, дзеяч апазіцыі генерал Юрый Захаранка.

16 верасня 1999 года зніклі без звестак былы старшыня Цэнтрвыбаркама і віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Беларусі Віктар Ганчар, які рыхтаваў імпічмент Аляксандра Лукашэнкі, і ягоны сябра, бізнесмен Анатоль Красоўскі. Пазней на мінскай вуліцы Фабрычнай, дзе меркавана адбылося выкраданне, былі знойдзены аскепкі аўтамабільнага шкла і сляды крыві.

Прадстаўнікі беларускай апазіцыі, родныя зніклых і міжнародная супольнасць лічаць, што яны былі выкрадзены па палітычных матывах. У датычнасці да іх знікненняў падазраюцца Віктар Шэйман (былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта), Уладзімір Навумаў (былы міністр унутраных спраў), Юрый Сівакоў (займаў пасаду кіраўніка МУС) і Дзмітрый Паўлічэнка (на той момант камандзір брыгады спецназа ўнутраных войскаў МУС), адносна якіх з 2004 года дзейнічаюць санкцыі Еўрасаюза і ЗША.

У верасні 2004 года Аляксандр Лукашэнка ахарактарызаваў Шэймана, Навумава, Сівакова і Паўлічэнку як «самых сумленных, надзейных, адданых народу і дзяржаве людзей».

На пачатку 2019 года Следчы камітэт паведаміў аб прыпыненні расследавання спраў аб знікненні Захаранкі, Ганчара і Красоўскага. У снежні 2019 года справу аб знікненні Захаранкі аднавілі.

16 снежня 2019 года нямецкае выданне Deutsche Welle апублікавала інтэрв'ю, у якім Юрый Гараўскі, які назваў сябе байцом беларускага «эскадрона смерці», расказаў, як удзельнічаў у выкраданні і забойстве праціўнікаў Аляксандра Лукашэнкі 20 гадоў таму пад камандаваннем Дзмітрыя Паўлічэнкі.

24 снежня 2019 года ў інтэрв'ю «Эхо Москвы» Лукашэнка заявіў, што ніхто, акрамя яго, не мог даць каманду аб выкраданні і забойстве палітыкаў, а ён «ніколі ў жыцці не аддаваў такую каманду» і не дасць цяпер. Ён запытаўся, навошта яму было б такое патрэбна і «што змянілася, калі ў Беларусі не стала двух ці трох чалавек», і дадаў, што «Дзіма Завадскі з-за Чачні Шарамета загінуў». Лукашэнка звязаў заявы Гараўскага з тым, што «заўтра прэзідэнцкія выбары».

ЧУЛІ?

## У Варшаве другі раз апаганілі помнік Касцюшку

*На помніку зноў з'явіўся надпіс чорнай фарбай: "Black Lives Matter. Still» ("Чорнае жыццё мае значэнне. Яшчэ").*

Гэта другі такі інцыдэнт за тыдзень. Абедзвюма справамі займаецца сталічная паліцыя, яе супрацоўнікі праглядаюць запісы гарадскога відэаназірання.

Нагадаю, што помнік Касцюшку ў Варшаве – копія манумента, які стаіць у Вашынгтоне і які таксама быў апаганены 1 чэрвеня падчас пратэстаў, выкліканых смерцю чорнаскурага Джорджа Флойда.

Джордж Флойд загінуў пасля затрымання ў Мінеапалісе 25 мая. Афіцэр паліцыі некалькі хвілін прыціскаў каленам яго шыю. Гэта падзея выклікала беспарадкі ў Злучаных Штатах. Дзясяткі тысяч амерыканцаў выйшлі на вуліцы ў знак пратэсту супраць расізму і жорсткасці паліцыі. Акцыі супраць расізму таксама праходзяць у іншых краінах свету.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

РЭГІЁН

## Пра ўсё што заўгодна, толькі не пра пандэмію...

У Гродне, нягледзячы на адсутнасць каранціну падчас пандэміі каранавіруса, існавалі шмат якія абмежаванні. Хаця афіцыйных паведамленняў пра тое, якая ў вобласці эпідэміялагічная сітуацыя, не было і няма. Цяпер улады аб'явілі, што з 5 чэрвеня адновяць паказ фільмаў у кінатэатрах.

Вядома, што прымуць гледачоў толькі тры з іх: «Кастрычнік», «Космас» і «Чырвоная зорка». Праўда, пакуль будзе трансляваца толькі па адным сеансе для дарослых і для дзяцей.

На наступным тыдні павінны запрацаваць тэатры. Дарэчы, Гродзенскі драматычны тэатр на працягу апошніх двух месяцаў паказвае свае спектаклі анлайн.

Першыя пастаноўкі ў Лялечным тэатры гледачы могуць паглядзець ужо 6 чэрвеня. Кожны, хто набудзе квіток, атрымае бясплатную медыцынскую маску пры ўваходзе.

На сайце гродзенскага аўтавакзала з'явіўся расклад руху аўтобусаў у Беласток і Варшаву. Прыватныя фірмы, якія займаюцца пасажырскімі перавозкамі, таксама пачынаюць аднаўляць рэйсы ў Польшчу.

А з 9 чэрвеня на балконе дома па вуліцы Савецкай, 15 артысты абласной філармоніі будуць даваць канцэрты. Традыцыйна яны ладзяцца па аўторках а 18-й гадзіне.

Сёлета работнікі філармоніі распачынаюць яшчэ адзін арт-праект – "Музычны асяродак". Анансавана, што кожную сераду ва ўтульным дворыку Музея гісторыі рэлігіі будзе гучаць музыка.

Адным словам, гродзенцам абяцаюць лета з культурнай праграмай.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ФУТБОЛ

## Брэсцкае «Дынама» правучыла «Мінск»

*Адбыліся матчы 12-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: "Смалявічы" – "Гарадзея" – 4:1, "Слуцк" – "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – 1:1, "Іслач" (Мінскі раён) – "Рух" (Брэст) – 1:1, "Славія" (Мазыр) – "Нёман" (Гродна) – 1:3, "Дынама" (Брэст) – "Мінск" – 6:1, "Віцебск" – БАТЭ (Барысаў) – 2:2, "Белшына" (Бабруйск) – "Дынама" (Мінск) – 0:4, "Шахцёр" (Салігорск) – "Энергетык-БДУ" (Мінск) – 1:0.



### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 12 | 8 | 2 | 2 | 25–12 | 26 |
| Шахцёр | 12 | 7 | 3 | 2 | 17–3 | 24 |
| Тарпеда-БелАЗ | 12 | 6 | 4 | 2 | 16–10 | 22 |
| Энергетык-БДУ | 12 | 7 | 1 | 4 | 17–14 | 22 |
| Дынама (Бр) | 12 | 6 | 1 | 5 | 23–15 | 19 |
| Слуцк | 12 | 5 | 3 | 4 | 17–17 | 18 |
| Нёман | 11 | 5 | 2 | 4 | 17–13 | 17 |
| Дынама (Мн) | 12 | 5 | 1 | 6 | 17–12 | 16 |
| Іслач | 12 | 5 | 1 | 6 | 13–17 | 16 |
| Славія | 12 | 4 | 3 | 5 | 15–20 | 15 |
| Рух | 12 | 3 | 6 | 3 | 10–11 | 15 |
| Віцебск | 12 | 3 | 6 | 3 | 13–15 | 15 |
| Мінск | 10 | 4 | 1 | 5 | 14–22 | 13 |
| Гарадзея | 12 | 3 | 3 | 6 | 8–17 | 12 |
| Смалявічы | 11 | 1 | 4 | 6 | 11–17 | 7 |
| Белшына | 12 | 0 | 3 | 9 | 9–27 | 3 |

*Фота: fcminsk.by*

СПАДЧЫНА

# «Беларусы – гэта нашчадкі людзей гонару, асветы і высокай культуры»

*Сённяшняя гутарка – са старшынёй Мінскага сходу нашчадкаў шляхты і дваранства* ***Ігарам Чакалавым-Шыдлоўскім****.*




**– Ігар Уладзіміравіч, у наш час чалавек, што належаў да шляхты, уяўляецца ў масавай свядомасці не зусім звычайным. Большасць скажа: ну, тыя людзі ездзілі ў карэтах, выкшталцона апраналіся, умелі размаўляць на замежных мовах, вучыліся ў Еўропе, слухалі і самі выконвалі творы Моцарта… А як насамрэч?**

– У мінулым галоўным адрозненнем шляхціца была шабля. Шляхта – гэта перадусім вайсковае саслоўе, "людзі ў пагонах" свайго часу, якія стварылі нашу гістарычную дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае цаной сваёй крыві. Не было б шляхты – і краіны не стала б, бо на нашы землі хапала ахвочых і з усходу, і з захаду, і з поўначы, і з поўдня. Галоўным прызначэннем шляхты было абараняць родную зямлю. Але сярод гэтага саслоўя былі як магнаты, так і зусім не заможныя людзі, якія працавалі на зямлі гэтаксама, як і сяляне. Іншая справа, што сваім паходжаннем ганарыліся: бедны шляхціц заўжды вазіў з сабой імянную зброю, якая падкрэслівала яго прыналежнасць да эліты. Шляхта нават апраналася па-свойму, не так, як іншыя групы насельніцтва. Модная зараз «вышыванка», напрыклад, таксама частка беларускага гістарычнага касцюма, але яна характэрная для сялянскай культуры. Шляхецкая частка гістарычнай моды ў нас не адраджаецца. Нам чамусьці ўнушалі, што ў Беларусі яе і не было ніколі, аднак гэта не так.

**– У чым праяўлялася элітарнасць шляхты?**

– Нягледзячы на розны ўзровень дабрабыту, усіх гэтых людзей аб'ядноўвала імкненне да культуры. Нават тыя, хто сам апрацоўваў зямлю, імкнуліся даць сваім дзецям адукацыю, прышчапіць ім добрыя манеры, выхаваць пачуццё абавязку. Эліта стваралася стагоддзямі дзякуючы спадчыннасці і выхаванню. Канечне, геній можа нарадзіцца ў любым сацыяльным асяроддзі. Але каб заўважыць ягоныя таленты, вывучыць і выхаваць – для гэтага патрэбны вышэйшы элітарны слой, які валодае пэўнымі магчымасцямі. Невыпадкова сярод шляхты і дваран было развіта мецэнацтва. Ахвяраваліся сродкі не толькі на дапамогу бальніцам, але і на мэты асветы. Дзецям беднай шляхты дапамагалі атрымаць адукацыю, для гэтага нават існаваў адмысловы фонд. А некаторыя дваране адкрывалі школы, рамесныя вучылішчы і для сялянскіх дзяцей. Гэта былі людзі абавязку, якія цікавіліся грамадскім жыццём і актыўна бралі ў ім удзел.

**– Шляхта і дваране – сінонімы?**

– Не, шляхта – больш шырокае паняцце, і яна мінімум на 300 гадоў больш старажытная за дваранства ў расійскім разуменні. Беларуская традыцыя больш блізкая да еўрапейскага рыцарства. Не ўся шляхта атрымала дваранскія граматы пасля далучэння ВКЛ да Расійскай імперыі. Тым не менш ва ўсіх славянскіх народаў маюцца падобныя рысы ў фарміраванні эліт, агульныя прынцыпы.

**– Нашчадкі шляхты звычайна ганарацца сваёй прыналежнасцю да знакамітых родаў. Ці праўда, што асэнсаванне чалавекам свайго паходжання прымушае яго мяняцца?**

– Так, сапраўды прымушае мяняцца. У мяне перад вачыма мноства прыкладаў з нашай арганізацыі. Змяняюцца паводзіны людзей, іх зацікаўленні, звычкі. Напрыклад, тыя, каго ніколі асабліва не кранала гісторыя, пачынаюць шукаць звесткі пра сваё радавое дрэва і… ужо не могуць больш не цікавіцца мінулым сваёй краіны. Гэтаксама, як і цяперашнім днём, і будучыняй. Што з культурнай спадчыны захавалася, як гэта зберагчы, як дапамагчы адрадзіцца нашай краіне? Усе гэтыя пытанні хвалююць нашчадкаў шляхецкіх традыцый не менш, бадай, чым хвалявалі продкаў.

**– Як у нашчадкаў шляхты складваюцца адносіны з інстытутамі ўлады?**

– Прадстаўнікі ўлады, прынамсі, не перашкаджаюць нам. А нярэдка людзі, якія працавалі ў дзяржаўных структурах, самі прыходзяць да нас – звычайна пасля выхаду на пенсію. У той жа час без лаяльнага стаўлення да нашых ідэй нас наўрад ці зарэгістравалі б. Калі Сход толькі пачынаў арганізоўвацца, з рэгістрацыяй дапамог адзін вядомы ў краіне чалавек. Ён папрасіў захаваць яго імя ў таямніцы. Дарэчы, у яго самога знайшліся шляхецкія карані.

**– Даследчыкі сцвярджаюць, што да шляхецкіх родаў належалі 15–20 працэнтаў насельніцтва Беларусі...**

– Прыкладна столькі ж і сёння. Наша ўнікальнасць палягае ў тым, што гэткай вялікай колькасці прывілеяванага саслоўя не было больш нідзе ў свеце – ні на Захадзе, ні на Усходзе.

**– У такім разе як адчуваецца сёння, што ў мільёна беларусаў (а калі браць па ўсім свеце, то і болей) у жылах цячэ шляхецкая кроў? І чаму тыпова шляхецкія прозвішчы так часта сустракаюцца сярод актыўных і выбітных людзей: найлепшых навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, праваабаронцаў, вайскоўцаў, палітыкаў?**

– Натуральна, гэта невыпадкова. Ва ўсе часы прадстаўнікі шляхты служылі, абаранялі, даследавалі, стваралі творы культуры і мастацтва. Яны ж умелі і весці гаспадарку, арганізоўваць справы. Нам ёсць чым ганарыцца: нашы продкі былі аўтарамі Статута ВКЛ – фактычна гэта першая ў свеце канстытуцыя! Канечне, немалая частка шляхты была знішчана, яна на працягу стагоддзяў гінула ў баях, пазней вялікая частка страціла свае прывілеі. Дзеля таго каб выжыць, гэтым людзям даводзілася прыстасоўвацца: вучыць новыя мовы, ісці на службу да новых уладароў, прымаць іншую веру, змяняць літары ў прозвішчах, хаваць ці нават знішчаць дакументы, уцякаць за межы сваёй Бацькаўшчыны… Цяпер нам трэба выявіць гэты наш "страчаны мільён". На яго насамрэч уся надзея. Бо будучыня Беларусі шмат у чым залежыць ад таго, як мы самі будзем заяўляць пра сябе. Хочам лічыць сябе "нацыяй у лапцях" ці ўсё-такі нашчадкамі людзей гонару, выкшталцонасці, асветы, высокай культуры?

**– Што б вы сказалі чалавеку, які таксама падзяляе погляды на гісторыю, але не знаходзіць сярод сваіх продкаў ніякіх дваран?**

– За невыкананне кодэкса гонару шляхціца маглі пазбавіць прывілеяў. Годныя паводзіны і стагоддзі таму цаніліся вышэй за высакароднае паходжанне. Цяпер жа мы жывём не ў саслоўнай дзяржаве. Галоўнае – гэта жыць паводле законаў шляхецкага гонару. Гэта значыць жыць не толькі для сябе, але і дапамагаць людзям, абараняць сваю краіну, цаніць сваю і чужую годнасць, быць моцным, справядлівым і пры гэтым праяўляць дабрыню. Пагадзіцеся, да гэтага якраз і імкнецца варты чалавек. А цікавіцца гісторыяй сваёй уласнай сям'і, роду, Радзімы – можна сказаць, усё яшчэ прывілей. Рана ці позна да гэтага прыходзіць большасць людзей. Калі ў адных гэтая цікавасць праяўляецца з юнацтва, то іншыя пачынаюць адчуваць патрэбу ў такой радавой, гістарычнай повязі ў больш сталым узросце.

Такім чынам, каб падтрымліваць традыцыі шляхты, зусім не абавязкова быць асобай каралеўскай крыві. Хоць, калі такі факт раптам знойдзецца ў вашым радаводзе, гэта моцна вас абавяжа. Вы будзеце проста абавязаны быць прыкладам у самых высакародных справах!

**– Сход нашчадкаў шляхты і дваранства ладзіць нямала цікавых мерапрыемстваў, ажно да самых сапраўдных старасвецкіх баляў. Распавядзіце, калі ласка, аб вашых планах.**

– Наша таварыства – культуралагічнае. Зазвычай кожны месяц мы арганізуем сустрэчы з пісьменнікамі, гісторыкамі, прэзентацыі кніг, паэтычныя і музычныя салоны, праводзім экскурсіі па Беларусі і ў замежжа. Напрыклад, на пачатку года ўсталявалі памятны знак на радзіме Эдварда Вайніловіча на Капыльшчыне.

Канечне, многія планы давялося адкласці на нявызначаны час з-за сітуацыі з пандэміяй. У маі спадзяваліся запрасіць на прэзентацыю серыі кніг аб гісторыі моды і строяў. Летам хацелася б нанесці візіт у Ракаў да Фелікса Янушкевіча, а таксама наведаць Валожын, мястэчка Пяршаі – з'ездзіць да сябры нашага Сходу скульптара сп.Калясінскага. Думаем пра вандроўку ў Пухавічы і наваколле. Усё гэта – дзівосныя мясціны з гістарычнымі помнікамі, якія там захаваліся. Дарэчы, часта цікавасць да іх узнікае пасля таго, як адраджэннем старажытнасцяў пачынаюць займацца энтузіясты. У чэрвені нас запрашалі ў Гродна на баль у гонар Элізы Ажэшкі. У верасні мы планавалі і самі зладзіць вялікі шляхецкі баль... Цяпер масавыя імпрэзы лепей перанесці на больш спрыяльныя часы, але ад сваіх планаў мы не адмаўляемся.

Гутарыла
**Таццяна ЖДАНОВІЧ.**

НУ І НУ!

## На матацыкле – вакол свету

*34-гадовая беларуска Кацярына Дубаневіч вярнулася з амаль двухгадовага падарожжа, хаця і не завяршыла яго.*

Кацярына выехала з Мінска 18 жніўня 2018 года на матацыкле БМВ. За гэты час пабывала ў Азіі, Аўстраліі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы.

Таксама планаваліся паездкі па Афрыцы і Еўропе, але іх з-за пандэміі каранавірусу давялося адмяніць.

*"Родны дом, мама. Любоў і акіян спакою і цеплыні запоўнілі ўсю маю душу"*, – напісала Кацярына Дубаневіч па вяртанні дадому на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках.

**Віктар ШПАК.**




ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

## Алена Ланская получила второе высшее образование

*Заслуженная артистка Беларуси на днях продемонстрировала диплом Белорусского государственного университета культуры по специальности «режиссер».*

*«Для меня очень важный день, начался новый виток моей творческой деятельности*, – так подписала свое фото с дипломом певица. – *Благодарю преподавателей БГУК за терпение и помощь в освоении профессии! Есть повод отметить!»*




Кстати, у артистки уже есть одно высшее образование. Как известно, Алена Ланская закончила 9 классов могилевской средней школы №28, затем училась в Могилевском государственном экономическом профессионально-техническом колледже, получила там специальность «контролер-кассир сберегательного банка, оператор ЭВМ». После Алена закончила Белорусско-российский университет, она финансист.

Ну а теперь Ланская – настоящий дипломированный специалист в сфере культуры.

С новым дипломом Алену Ланскую уже поздравили многие коллеги по шоу-бизнесу.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ПРАВИЛЬНЫЕ СЛОВА

## Искуи АБАЛЯН: «Я от счастья чуть не расплакалась!»

*Заслуженная артистка Беларуси, Посол доброй воли Управления Верховного комиссара ООН по делам беженцев Искуи Абалян написала трогательный пост в социальных сетях. Певица призывает наслаждаться каждой минутой и дарить любовь.*



– Я так привыкла к жизни, в которой нет суеты... Когда можно наслаждаться каждой мелочью, смакуя каждый нюанс. Мне нравится ходить без макияжа. Мне нравится никуда не торопиться, ждать мужа на обед, заглядывать в его глаза в ожидании эмоции от вкусности приготовленного блюда… Да, я просто человек, который тоже любит простую похвалу, комплимент и так далее…

Мне нравится, когда в доме весело и шумно, когда слышен заливистый смех всех его обитателей...

Но мне грустно оттого, что не могу обнять родителей, друзей и насладиться общением с друзьями… Коронавирус! Человеку нужен человек! Сегодня ехали с мужем по городу, и в автобусе сидел мальчишка лет восьми-девяти. Я ему подмигнула, улыбнувшись, и уже хотела было отвернуться, как вдруг мальчишка одарил меня тако-о-ой улы-ы-ыбкой! И еще рукой в ответ помахал... Я от счастья чуть не расплакалась!

Как это важно иметь внутри открытую любовь к миру, к людям! А что, если мы все, выходя на улицу, будем просто улыбаться друг другу? Представляете: вы идете такой весь задумчивый на работу, а навстречу человек – и улыбается именно вам... Вы же не сможете удержаться, вы же улыбнетесь в ответ? Людям именно сейчас нужна такая сплоченная положительная эмоция, поддержка, любовь и чувство плеча! Именно сейчас!

**Галина РУТ.**

ВІНШУЕМ!

## Прэмію імя Багушэвіча далі за кнігу пра Рамана Скірмунта

Прэмію імя Францішка Багушэвіча, якая ўручаецца за найлепшую гістарычную прозу, атрымаў **Алесь Смалянчук** за кнігу **«Раман Скірмунт (1868–1939). Жыццяпіс грамадзяніна Краю».**

Прэмію імя Францішка Багушэвіча заснаваў Беларускі ПЭН-цэнтр у 1994 годзе.



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



з Алесем СІВЫМ

# ІЛГУНЫ

У бліжэйшы час кантрольна-дысцыплінарны камітэт Беларускай федэрацыі футбола вынесе вердыкт у дачыненні да футбаліста Захара Воўкава і яшчэ 14 фігурантаў па справе аб дамоўленых матчах.

Трэба сказаць, што Воўкаў – абаронца БАТЭ і зборнай Беларусі – так бы мовіць, твар нацыянальнага футбола, з якога юныя футбалісты павінны былі б браць прыклад.

Але, як кажуць, чалавек слабы, і Захар Воўкаў не выключэнне. Паддаўся спакусе атрымаць лёгкія грошы, удзельнічаючы ў дамоўленых матчах. Праўда, затым павініўся, дапамог следству і быў вызвалены ад крымінальнай адказнасці.

Гэта як у Ільфа і Пятрова: *"Загадчык гаспадаркі 2-га дома Старсабеса быў сарамлівы зладзюга. Уся яго існасць пратэставала супраць крадзяжоў, але не красці ён не мог. Ён краў, і яму было сорамна".*

Захар Воўкаў і іншыя фігуранты справы нічога не кралі, але спраўна бралі грошы за дапамогу ў атрыманні неабходнага выніку і такім чынам падманвалі балельшчыкаў. Але некаторым было сорамна. Усяго такіх "сарамлівых" назбіралася 15 чалавек, астатнія аказаліся на лаве падсудных. Як паведамляла следства, былі выяўлены факты подкупу, спроб подкупу, а таксама крадзяжу з дапамогай падману букмекерскіх кантор.

У хакеі, з якім у нашай краіне апошнім часам носяцца як з пісанай торбай, таксама, як аказалася, не ўсё ў парадку. Мільёны долараў, якія не клубы зарабілі, а ў добраахвотна-прымусовым парадку ішлі ад буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, прывучылі спартсменаў да вялікіх грошай.

Раней нават хакеісты-пачаткоўцы з чэмпіянату Беларусі, якія яшчэ нічога не дасягнулі, мелі па некалькі тысяч долараў у месяц. І калі заробкі ім зменшылі, то многія, відаць, палічылі гэта абразай. Таму і сталі магчымымі такія матчы, як "Дынама-Маладзечна"–"Магілёў", у якім дынамаўцы выйгравалі 5:1, а прайгралі, як пісалі СМІ, "у драматычным матчы з лікам 5:6".

Тут і на самай справе сапраўдная драма! Пазней асобныя ігракі фарм-клуба сталічнага "Дынама" прызналі сваю віну: маўляў, ім заплацілі за пройгрыш. Але самае крыўднае для іх, што небаракі прозвішчы свае навечна запэцкалі, а грошы так і не атрымалі, хаця абяцалі ім ад 7 да 15 тысяч долараў. А якія імёны фігуравалі! Сяргей Шэлег, Вячаслаў Лісічкін, Мікіта Усціненка… Вось ён – антыпрыклад для юных хакеістаў.

Дарэчы, з заразай дамоўленых матчаў у Беларусі спрабуюць змагацца не першы год, але гэта, відаць, як барацьба з карупцыяй у краіне: аднаго пасадзілі – два новыя з'явіліся.

У 2017 годзе суд Першамайскага раёна Мінска таксама вынес прысуд па справе аб дамоўленых матчах у беларускім футболе. Тады судзілі столькі футбалістаў і трэнераў, што з іх можна было б сабраць цэлую каманду з доўгай лавай запасных.

Замара і Сыраквашка атрымалі нават па 3 гады зняволення, многія – вялікія штрафы. Але ўразіла тады тое, што сказаў пасля вынясення прысуду цяпер ужо былы футбаліст "Іслачы" Аляксандр Лебедзеў, які атрымаў штраф у памеры 800 базавых велічынь: *"Улічваючы заробкі футбалістаў, лічу пакаранне вельмі суровым. 90 працэнтаў ігракоў, якім прапанавалі б "здаць гульню", на гэта пагадзіліся б"*. І цынічна дадаў: *"Гэта немалыя грошы, а рабіць, па сутнасці, нічога не трэба"*.

Тут, як кажуць, без каментарыяў, хаця асабіста я лічу, што Лебедзеву не варта ўсіх мераць па сабе. Упэўнены, што большасць футбалістаў адмовіліся б ад удзелу ў брудных гульнях, хаця, як бачым, розных людзей хапае.

Яны хлусяць балельшчыкам і за пяць капеек могуць прадаць і клуб, і сябе. Ім не сорамна глядзець у вочы тым, хто за іх балее. Сорам прыходзіць толькі тады, калі ўжо зловяць за руку. І то не да ўсіх.

УСМІХНІЦЕСЯ...

## Смяшынкі з Лявонавай скрынкі

* * *

Мужчына без жанчыны, як сабака без блох: жыць можна, але сумна! А жанчына без мужчыны, як блыха без сабакі: жыць можна, але кусаць няма каго.

* * *

Аб'ява ў маршрутцы: "Просьба семкі, арэхі і бананы есці разам з лушпіннем!"

* * *

Таксіст падвозіць вядомага мільянера. Той разлічваецца роўна па лічыльніку. Таксіст здзіўляецца:

– Я ўчора вашага сына падвозіў, дык ён мне на чай даў 100 долараў.

– Што вы хочаце: у яго бацька – мільянер, а я – сірата.

* * *

Мяне хвалюе не столькі памер карупцыі ў нашай краіне, колькі немагчымасць у ёй удзельнічаць.

* * *

Менталітэт – гэта тое, што адны засвойваюць з малаком маці, другія – з вермутам бацькі.

* * *

Жыццё – гэта рух: адны шавеляць звілінамі, другія хлопаюць вушамі.

* * *

Мы не правыя і не левыя, таму што мы валенкі.

* * *

Усе краіны свету жывуць па сваіх законах. Толькі Расія жыве па прыказках і прымаўках.

**Падрыхтаваў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «Самі на той свет прыехалі…»

*Днямі УУС Віцебскага аблвыканкама паведаміла, што ў вёсцы Навасёлкі Пастаўскага раёна машына ўрэзалася ў дрэва, два чалавекі загінулі.*



26-гадовы вадзіцель не справіўся з кіраваннем, аўтамабіль выехаў на сустрэчную паласу і ўрэзаўся ў прыдарожнае дрэва. У выніку ДТП вадзіцель і пасажыр загінулі на месцы. Другі пасажыр быў дастаўлены ў бальніцу.

*"Страшна, калі гінуць такія маладыя!* – уздыхаюць жыхары Навасёлак. – *Тыя хлопцы, што загінулі, – з нашай вёскі, а той, што застаўся жывы, – з суседняй.*

*За рулём быў Аляксандр Чуйвід. Жыў адзін, асобна ад бацькоў. Нежанаты. Некалькі гадоў працаваў у мясцовай гаспадарцы трактарыстам, але затым, калі яна развалілася, застаўся без працы. Перабіваўся часовымі заробкамі – камусьці нешта пабудуе, камусьці дровы паколе…*

*Другі загінуўшы – 38-гадовы Вадзім Кыркелан. Некалькі разоў адбываў пакаранне ў калоніі. Маці ў яго даўно памерла, а жыў у Навасёлках з айчымам. У арміі пашкодзіў вока і за гэта штомесяц атрымліваў пэўную дапамогу. На гэта і жыў".*

Аварыя адбылася ў 6 гадзін раніцы, адкуль і куды ехалі мужчыны ў такі час, мясцовыя жыхары не ведаюць. Але пры гэтым мяркуюць, што і вадзіцель, і пасажыры былі нецвярозыя.

*"Самі на той свет і прыехалі,* – дадаюць вяскоўцы. – *Трэцяму яшчэ пашанцавала, застаўся жывы, хаця спачатку быў у рэанімацыі ў цяжкім стане. У яго лёгкія пашкоджаны".*

У ДАІ Пастаўскага РУУС "Народнай Волі" паведамілі, што па факце гэтага ДТЗ узбуджана крымінальная справа, але разбіральніцтва пакуль не завершана.

…Штодзённая статыстыка па загінуўшых у аварыях падчас нагадвае паведамленні з месца ваенных дзеянняў. Людзі самі шукаюць смерці і мэтанакіравана да гэтага ідуць.

Куды ляцелі гэтыя жыхары Навасёлак па вёсцы, дзе трэба ехаць не больш за 60 кіламетраў у гадзіну? А хуткасць была такая, што машына ад удару ў дрэва амаль раскалолася на дзве часткі!

Хацелася паказаць сябе крутымі? Бесклапотнасць? Перабольшаная ўпэўненасць у сабе, падмацаваная алкаголем? На гэтыя пытанні тыя двое, што сёння ляжаць у магілахі, ужо не адкажуць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Вярнуць сертыфікат

*Маю падарачны сертыфікат на пэўны тавар, але, калі прыйшла ў магазін, то гэты тавар не знайшла. Сказалі, што ўжо няма. Ці можна абмяняць сертыфікат на грошы?*

**Валянціна КІСЕЛЬ, г.Полацк.**

– Можна. Калі ў вас ёсць падарачны сертыфікат на нейкі тавар, а яго няма, то можна атрымаць грашовую кампенсацыю.

### Вярнуць грошы за кававарку

*Купіў месяц таму дарагую кававарку (працягнутую гарантыю не набываў), а яна ўжо зламалася. Ці можна вярнуць грошы адразу?*

**Сяргей КАПУСЦІН, Брэст.**

– Можна. Спажывец мае права напісаць заяву і адмовіцца ад рамонту. А далей – патрабуйце вярнуць грошы.

### Лодка здзімаецца

*Сябры падарылі лодку. Надзьмулі яе, а праз некаторы час стала зразумела, што лодка не трымае паветра. Дзіркі як быццам не бачна, але ж гэта няправільна, калі паветра марудна сыходзіць. Ці можна вярнуць тавар назад альбо абмяняць на якасны?*

**Аляксандр ВАЛУЙ, г.Клімавічы.**

– Можна на працягу 14 дзён. У выпадку, калі магазін адмовіцца прымаць тавар, напішыце прэтэнзію і правядзіце экспертызу.

### Тры тыдні не могуць паставіць сантэхніку

*Праўду кажуць: скупы два разы траціць! Вырашылі зэканоміць на ўстаноўцы новай сантэхнікі і звярнуліся не ў прыватную фірму, а ў свой ЖЭС. У выніку ўжо каля трох тыдняў сантэхнікі не могуць закончыць працу. То ў іх нейкія іншыя справы, то яшчэ нешта… Што рабіць?*

**Аляксандр САНКОВІЧ, г.Вілейка.**

– Паводле закона, выкананне любых камунальных работ па дамове прадугледжвае тэрмін – 14 працоўных дзён. Звярніцеся з прэтэнзіяй у ЖЭС.

### Гіпермаркет падмануў?

*У паштовую скрыню мне пастаянна кідаюць рэкламныя праспекты. Прачытала, што ў адным з гіпермаркетаў можна на акцыі з добрай зніжкай купіць чырвоную рыбу. Прыехала – няма тавару. Маўляў, ужо прадалі. Ці можна паскардзіцца на магазін?*

**Святлана ХАРАШЭВІЧ, Мінск.**

– Безумоўна, можна пакінуць запіс у Кнізе заўваг і прапаноў. На будучыню я параіў бы папярэдне тэлефанаваць у магазін (кантакты лёгка знайсці ў інтэрнэце), каб даведацца, ці ёсць тавар у продажы і ці мае сэнс ехаць. А некаторыя гандлёвыя сеткі часам і праўда выкарыстоўваюць акцыі нядобрасумленна.

### Калі патрапіў на нявеглівага прадаўца

*Нярэдка даводзіцца сустракацца ў магазінах з прадаўцамі, якія лаяцца на пакупнікоў. Я разумею, што чалавек не жалезны, могуць і нервы здаць, а ў магазін розныя людзі прыходзяць. Але ж і выхаванне павінна быць. Ці можна за тое, што на мяне прадавец накрычаў, напісаць скаргу?*

**Таццяна КРУПНІК, Мінск.**

– Напішыце пра паводзіны прадаўца ў Кнігу заўваг і прапаноў. Адміністрацыя магазіна павінна адрэагаваць.

### Колькі робіцца гарантыйны рамонт?

*Аддаў тэлевізар у майстэрню, каб зрабілі гарантыйны рамонт. У які тэрмін павінны адрамантаваць тэхніку?*

**Васіль ПІНЧУК, г.Мазыр.**

– Тэрмін гарантыйнага рамонту – два тыдні.

### Купіў не тое шкло

*Набыў шкло на экран тэлефона праз інтэрнэт-магазін, але, калі заказ прыйшоў, заўважыў, што яно крыху не падыходзіць да маёй мадэлі. Хаця прадавец абяцаў, што гэта менавіта тое, што мне неабходна. Ці можна вярнуць грошы за тавар?*

**Андрэй МІСЮК, г.Клецк.**

– Можна на працягу 14 дзён. Заявіце ў магазін прэтэнзію.

ШАХМАТЫ

## Публікуецца ўпершыню



Сваю новую задачу прапануе наш чытач **Чэслаў Якубоўскі** з Мінска *(гл. дыяграму).*

**Белыя:** Кра4, Фh7, Cd4, пп. e2, e4 (5).

**Чорныя:** Крd6 (1).

**Мат за 3 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Супольная праца

У мінулым выпуску мы распавялі пра Кубак гарадоў-герояў, дзе зборная Мінска і Брэста заваявала бронзавыя ўзнагароды. Прааналізуем яшчэ адну задачу з гэтага спаборніцтва, якая заняла трэцяе месца. У кампазіцыі чатыры аўтары: **Міхаіл Храмцэвіч, Віктар Волчак, Мікалай Быкаў, Вячаслаў Красічонак**.

**Белыя:** Крс7, Фа2, Лd5, Cd4, Ch3, Ke1, Ke5, пп. c2, c4, c5, d2, d6 (12).

**Чорныя:** Кре4, Лg2, Лg7, Ch5, Kc1, пп. c3, d3, d7, f3, f4 (10).

**Мат за 3 хады.**

Падманны след: 1.Фа8? - 2.К5:f3! С:f3 3.Cf5x, 1...Л2g5 2.K5:d3! і 3.Kf2x, 2...К:d3 3.cdx, 2...Лg2 3.Cf5x, 2...Л:d5 3.Ф:d5x, 1...Л7g5 2.К:d7! і 3.Kf6x, 2...Л:d5 3.Ф:d5x, 2...Лg7 3.Cf5x, 2...Лg6 3.Cf5x; 1...Лf7 2.К:f7! і 3.Фе8/3.Cf5x, 2...С:f7 3.Cf5x, 2...Cg4 3.Kg5x, 2...Лg4 3.Фе8x, але 1...Лg8!

Рашае 1.Фb1! ~ 2.cd+ K:d3 3.Ф:d3x, 1...Л2g4 2.К5:d3! ~ 3.Kf2x, 2...Лg2 3.Cf5x (2...K:d3 3.cdx); 1...Cg4 2.K5:f3! ~ 3.Ле5x, 2...C:f3 3.Cf5x (2...Л7g5/Ле7 3.К:g5x); 1...Л7g4 2.K:d7! ~ 3.Kf6x, 2...Лg7 3.Cf5x; 1...dc 2.Ф:c2+ Kd3 3.Ф:d3x; 1...Л:d2 2.K5:f3! Лg5 3.K:g5x

## «Спроба пяра»

Наш чытач **Сяргей Дарошчанка**, дэбютаваўшы ў ролі шахматнага складальніка, даслаў некалькі сваіх кампазіцый, з якіх мы выбралі наступную. Прапануем яе рашыць.

**Белыя:** Крb2, Ле7, пп.а7, b5, c4 (5).

**Чорныя:** Крb6, пп.c2, c5 (3).

**Мат за 3 хады.**

## Праз інтэрнэт

Апошнім часам адбылося яшчэ некалькі цікавых анлайн-спаборніцтваў. Напрыклад, удзельнікі зборнай Расіі выступілі ў дабрачынным бліцтурніры. На кругавой стадыі мацнейшы быў экс-чэмпіён свету **Уладзімір Крамнік**, але пасля стадыі плэй-оф выніковае першае месца заняў **Аляксандр Грышчук**.

Міжнародная шахматная федэрацыя зладзіла анлайн "Кубак нацый" па хуткіх шахматах з удзелам шасці каманд. У выніку месцы размеркаваліся так: 1.Кітай; 2.ЗША; 3.Еўропа; 4.Расія; 5.Індыя; 6.Астатні свет. Фінальны матч Кітай–ЗША скончыўся з лікам 2:2, але ў Кітая былі лепшыя дадатковыя паказчыкі. Дададзім, што капітанам каманды Еўропы быў **Гары Каспараў**, хаця сам ён не гуляў. Дарэчы, прызавы фонд спаборніцтва складаў 180 тысяч долараў.

Прыводзім яшчэ адну партыю з анлайн-турніру васьмі гросмайстраў, пра які мы распавядалі ў мінулым выпуску.

***Фабіяна Каруана – Хікару Накамура (паўфінал)***

1.e4 e5 2.Kf3 Kc6 3.Cc4 Cc5 4.0-0 Kf6 5.d3 d6 6.c3 h6 7.Ле1 0-0 8.h3 a5 9.Kbd2 Cb6 10.Cb3 Ce6 11.Ca4 Kd7 12.Kf1 f5 13.ef C:f5 14.d4 ed 15.cd Kf6 16.Kg3 Ch7 17.Cb3+ Крh8 18.a3 Ke7 19.Ce6 c6 20.Cd2 Kfd5 21.a4 Kb4 22.C:b4 ab 23.Фb3 Ca5 24.Ле3 Kg6 25.Cf5 Cg8 26.Фc2 Kh4 27.K:h4 Ф:h4 28.Фd3 Cb6 29.Ле4 Фf6 30.Лg4 Ла5 31.Cg6 Ce6 32.Ke4 Ф:d4 33.Ф:d4 C:d4 34.Лd1 C:b2 35.Лg3 Ce5 36.Ле3 Cd5 37.g3 Л:a4 38.f4 Ла1 39.Лd3 Л:d1+ 40.Л:d1 Cc3 41.K:d6 Лf6, 0:1.

## Запрашаюць да ўдзелу

Федэрацыя шахмат Масквы аб'явіла адкрыты міжнародны конкурс складання шахматных задач і эцюдаў. Прызавы фонд – 50 тысяч расійскіх рублёў. Конкурс праводзіцца ў сямі раздзелах: двуххадоўкі, трохходоўкі, шматхадоўкі, эцюды, задачы на кааператыўны мат, задачы на зваротны мат, казачныя задачы. Для эцюдаў павінна быць не больш за 10 фігур, для задач – не больш за 15. Тэмы свабодныя. Устаноўлены прызы, ганаровыя і пахвальныя водгукі.

Кампазіцыі неабходна дасылаць да 25 ліпеня на e-mail: **online@mskchess.ru** з тэмай **«Маскоўскі конкурс – 2020»**. Трэба пазначыць прозвішча, імя ўдзельніка, шахматнае званне, калі такое маецца, паштовы адрас, нумар тэлефона. Кампазіцыі дасылаюцца ў фармаце DOC, пры магчымасці арганізатары просяць дыяграмы афармляць у шрыфце Good companions, выкарыстоўваць у рашэнні літарныя сімвалы фігур ches (або літарную лацінскую натацыю).

## Праверце адказы

Задача **М.Храмцэвіча**, змешчаная ў "Народнай Волі" 19 мая, рашаецца: **1.Фf4!** Першымі правільна рашылі **Сяргей Галкін, Ігар Ананіч, Славамір Буката, Мікалай Шклярэўскі, Леанід Калодка, Віктар Жук, Сяргей Цяльпук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

НУ И НУ!

# Интернет-любовь ценой 20 тысяч долларов

*Мошенник сыграл на тоске по сильному плечу*

Порой люди так хотят любви и семейного счастья, что не видят обмана, даже когда, казалось бы, он очевиден. Этим пользуются те, для кого высокие чувства других лишь возможность обогатиться. В последнее время «развод на деньги» пылких сердец нередко происходит в результате виртуальных знакомств.

В Солигорском РОВД заведено уголовное дело по факту подобного мошенничества.



Одинокая 48-летняя солигорчанка познакомилась в интернете с неким Фрэнком Чарльзом. Тот представился ей военным врачом, работающим по контракту в Афганистане. Поведал грустную историю личной жизни: остался один как перст – жена и детишки погибли в автокатастрофе. Посему мечтает найти свою половинку, хочет счастья с любимым человеком.

Такой посыл нашел отклик в душе женщины. Между ними завязалась оживленная переписка.

Вскоре от «военного врача» последовало признание в любви и мрачное сообщение, что он находится в плену в Кабуле, некоторых его коллег уже убили, а над его жизнью нависла угроза. Он хотел бы как можно скорее прилететь к возлюбленной на крыльях любви, но вот такие трагические обстоятельства... А чтобы из них выйти, нужны деньги.

Критически осмысливать полученную от заочного любимого информацию солигорчанка не стала. По-видимому, не задалась вопросом, почему правительство страны «военного врача» ничего не делает ради его освобождения, а он просит финансовой помощи у обычной женщины из другого государства. Не принялась искать информацию в том же интернете, что на самом деле происходит в Афганистане и можно ли верить тому, о чем пишет ее «жених».

Жаждущая любви дама перевела вначале 850 евро, потом 8500 евро. Далее «военный врач» попросил уже 20 тысяч евро, объяснив, что деньги нужны, чтобы выплатить взнос на отставку, гербовый сбор, в общем, на все то, что освободит его от обязательств по контракту и наконец-то сделает возможным его приезд в Беларусь, чтобы соединиться с любимой. Она перевела ему все оставшиеся сбережения, но так как это было меньше запрошенной суммы, то женщина попросила в долг у дочери. Дочь сразу поняла, что мать попалась на удочку мошенника, принялась уговаривать ее обратиться с заявлением в милицию. Но наша героиня все еще сомневалась. Решила задать своему «жениху» конкретные вопросы. На эти вопросы он не ответил, на связь выходить перестал.

В РОВД, куда все-таки обратилась жительница Солигорска, ее огорошили: в мире на подобную удочку попалась уже не одна сотня женщин. Да, уголовное дело по ее заявлению возбудили. Но далеко не факт, что деньги удастся вернуть.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №93/106 ад 30.04.2004. 220013, Мінск, пр-т Незалежнасці, 79/1. Падпісана ў друк 08.06.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 21 667 экз. Заказ № 1965.